Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 23 (4772) 13 чэрвеня 2014 г.


6
It's a kind of magic…


9
Чаму старэюць ілюстрацыі?


15
Усе дарогі — у Гародню


16
Паглядзіце, якая дама!

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сардэчна павіншаваў з юбілеем — 80-годдзем з дня заснавання Саюза пісьменнікаў Беларусі — членаў творчай суполкі. «На працягу гэтага часу створана надзвычай багатая пісьмовая спадчына, — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы. — Творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Петруся Броўкі, Івана Мележа, Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна, а таксама сучасных аўтараў сталі здабыткам айчыннай і сусветнай літаратуры. Беларускія пісьменнікі заўсёды з'яўляліся выразнікамі дум, пачуццяў і спадзяванняў свайго народа. Таму вельмі важнай задачай застаецца патрыятычнае выхаванне грамадства, найперш маладога пакалення, на аснове традыцый гісторыі нацыянальнай культуры».

✔ У сувязі з юбілеем Саюза пісьменнікаў Беларусі старшыня творчай суполкі Мікалай Чаргінец адзначыў: «80-годдзе СПБ — гэта значны этап у развіцці беларускай літаратуры». Асабліва важна, што саюз падтрымлівае развіццё літаратуры ў рэгіёнах: у кожнай вобласці працуюць аддзяленні нашай творчай арганізацыі. «Сярод моладзі апошнім часам ярка заявілі пра сябе Маргарыта Латышкевіч, Рагнед Малахоўскі, Марыя Маліноўская, Дзмітрый Саўчык. Яны — заўтрашні дзень пісьменніцкай суполкі. «Галоўная наша мэта — стварэнне выдатнай літаратуры, якую з захапленнем будуць чытаць новыя пакаленні беларусаў», — падкрэсліў Мікалай Чаргінец.

✔ Георгій Марчук стаў лаўрэатам прэстыжнай Міжнароднай літаратурнай прэміі 2014 года імя Івана Ганчарова за раман «Кветкі правінцыі» ў намінацыі «Майстар мастацкага слова». Славуты раманіст нарадзіўся ў горадзе Сімбірску — сённяшнім Ульянаўску. Прэмію прысуджае губернатар Ульянаўскай губерніі Расіі. Трэба адзначыць, што твор беларускага пісьменніка карыстаецца вялікай цікаўнасцю сярод карыстальнікаў інтэрнэту.

✔ Сёння ў г. Паставы адбылося ўрачыстае адкрыццё XVII Міжнароднага фестывалю народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік». У фэсце бяруць удзел лепшыя калектывы з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Грузіі, Малдовы, Славакіі і нават Венесуэлы. У праграме — традыцыйны конкурс «Хто каго?», тэатралізаванае прадстаўленне «Пастаўскі баль», выступленне ансамбля салістаў Белдзяржфілармоніі «Класік-Авангард» ды інш. Плануецца адкрыццё першай чаргі музейнай экспазіцыі ў Палацы Тызенгаўза.

✔ З 13 чэрвеня на тэлеканале «Беларусь 1» стартуе другі сезон навукова-папулярнага дэтэктыва «Terra incognita. Беларусь невядомая». Стваральнікі праекта прапануюць гледачам здзейсніць займальную, поўную экстрыму вандроўку па Беларусі. Чарговая серыя ўнікальных праграм адкрые новыя грані непаўторнага свету беларускай прыроды Гэтым разам вядучы навукова-папулярнага шоу Максім Нямчынаў пабывае на балотах, у бязлюдных нетрах і глухіх кутках, а таксама сустрэнецца з тым, каго лічаць фальклорнай выдумкай… першы выпуск глядзіце сёння ў 18.10.

Фота Кастуся Дробава



Абмеркаванне ў кулуарах форуму.

# Дзеля супрацоўніцтва і ўзаемапавагі

### IX БЕЛАРУСКІ МІЖНАРОДНЫ МЕДЫЯФОРУМ «ПАРТНЁРСТВА Ў ІМЯ БУДУЧЫНІ: РЭАЛІІ ГЛАБАЛЬНАГА СВЕТУ» ПРАЙШОЎ У МІНСКУ

Для абмеркавання актуальнай праблематыкі сучаснасці ў Нацыянальным алімпійскім камітэце Беларусі сабралася каля 250 прадстаўнікоў медыясупольнасці з 20 дзяржаў свету. У якасці арганізатараў гэтай значнай міжнароднай падзеі выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Міждзяржаўны фонд гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД, Пастаянны Камітэт Саюзнай дзяржавы, Беларускі саюз журналістаў пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Беларусі, міністэрства сувязі і масавых камунікацый Расійскай Федэрацыі, Выканаўчага камітэта СНД, аналітычнага цэнтра «EcooM», Мінскага гарадскога і абласнога выканаўчага камітэтаў.

Адметна, што прывітанне на адрас удзельнікаў медыяфоруму скіраваў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Падчас пленарнага пасяджэння яго зачытаў намеснік Прэм'ер-міністра краіны Анатоль Тозік.

«Сёння ва ўмовах глабальнай інфармацыйнай прасторы асабліва запатрабавана адказная, сумленная журналістыка. Ваша слова павінна збліжаць дзяржавы і народы, праціставіць заклікам да разладу і варожасці, спрыяць наладжванню канструктыўнага дыялогу ў імя стварэння і міру», — адзначалася ў прывітальным слове Прэзідэнта.

— Адной з галоўных дамінант медыяфоруму з'яўляецца абмеркаванне ролі сродкаў масавай інфармацыі ў міждзяржаўным развіцці, умацаванні агульнагуманітарных каштоўнасцей, садзейнічанні ўзаемаразуменню паміж краінамі і людзьмі. За гады свайго існавання медыяфорум значна пашырыў свае межы як па актуальных тэматычных кірунках, так і па дзяржавах-удзельніцах. Сёння гэта аўтарытэтная пляцоўка, якая ахоплівае не толькі СНД, але і краіны Еўрапейскага Саюза, Бліжняга Усходу, Лацінскай Амерыкі, — падкрэсліла ў сваім выступленні першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.

Заканчэнне чытайце на стар. 2

# Дзеля супрацоўніцтва і ўзаемапавагі



Фота Кастуся Дробава

Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота гутарыць з журналістамі.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Удзельнікі пленарнага пасяджэння ў межах Медыяфоруму абмяркоўвалі пытанні глабалізацыі свету, інфармацыйнай бяспекі, магчымасці інфармацыйнага супрацоўніцтва. Сёння гаворка ідзе не проста пра інтэграцыю дзяржаў і ўтварэнне саюзаў, але пра інтэграцыю інтэграцый — пазіцыянаванне новых міждзяржаўных утварэнняў у сістэме тых, якія ўжо даўно склаліся. Так, Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота выказаў меркаванне, што пры добрым тлумачэнні ролі чарговага ўтварэння цікавасць да тэмы інтэграцыі будзе толькі павышацца. А першы намеснік старшыні Выканаўчага камітэта — Выканаўчага сакратара СНД Уладзімір Гаркун падкрэсліў значнасць працы беларускіх СМІ ў асвятленні актуальных пытанняў працы СНД. Абмеркавалі на форуме і ролю журналіста ў грамадстве. Старшыня Беларускага саюза журналістаў Анатоль Лемяшонак заўважыў, што сёння прафесія перажывае перыяд адраджэння: якасныя матэрыялы становяцца запатрабаванымі, але гэта значыць, што і на плечы спецыяліста ўскладваецца вялікая адказнасць, у тым ліку сацыяльная. Трэба быць вельмі адукаваным і эрудзіраваным, увесь час працаваць са словам, а таксама падаваць факты, інфармацыйныя паведамленні без дэструкцыі.

Здавалася б, гэтыя пытанні не маюць амаль нічога агульнага з літаратурна-мастацкай творчасцю і дзейнасць пісьменніка не закранаюць. Але старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, які падчас медыяфоруму выступіў таксама ў якасці эксперта панэльнай секцыі «Суверэнізацыя і інтэграцыя. Еўрапейскі эканамічны саюз як платформа пабудовы новага свету», з гэтым катэгарычна не пагадзіўся. Мікалай Іванавіч заўважыў:

— З вуснаў некаторых пісьменнікаў можна пачуць, што яны не цікавяцца палітыкай. Мне ж падаецца, што менавіта таму яны кепска пішуць. Калі чалавек далёкі ад палітыкі, значыць, ён не аналізуе эканамічную сітуацыю, жыццё людзей. Таму я лічу, што пісьменніку вельмі карысна ўдзельнічаць у падобных форумах, гэта важна нават для творчасці, бо пашырае кругагляд аўтара і дае яму новыя ідэі для твораў.

Удзельнікі Міжнароднага медыяфоруму маглі не толькі сустрэцца са старымі знаёмымі, сябрамі і калегамі, але і даведацца крыху больш пра Беларусь, наведаць памятныя мясціны. Так, у межах праграмы адбыліся эксперт-сесіі «Беларусь нескароная» (з наведваннем мемарыяльнага комплексу «Лінія Сталіна») і «Беларусь гасцінная» (з наведваннем Нясвіжскага палацава-паркавага ансамбля). А на базе Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта прайшла летняя школа журналістыкі, якая ўключала майстар-класы вядучых беларускіх і замежных спецыялістаў галіны.

Як падкрэсліў намеснік Дзяржаўнага сакратара Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь Станіслаў Засьʼ, магчымасці Беларускага міжнароднага медыяфоруму невычэрпныя. Таму, думаецца, з цягам часу тэматычнае поле для абмеркавання і склад удзельнікаў будуць толькі пашырацца.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

***З нагоды***

# Місія выканальная, ці Чаму так важны фестываль у Маладзечне?

Ад пачатку Нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне Белтэлерадыёкампанія была адным з яго арганізатараў — поруч з Нацыянальным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскім аблвыканкамам і Маладзечанскім райвыканкамам. Натуральна, яна ж забяспечвала і трансляцыі асноўных мерапрыемстваў. Сёлета яны будуць весціся на канале «Беларусь 3».

Пра асаблівасці фестывалю ў Маладзечне і яго значэнне для краіны ўвогуле мы размаўлялі з Сяргеем Макарэм, намеснікам галоўнага дырэктара галоўнай дырэкцыі тэлеканала «Беларусь 3».

## ТБ-ВЕРСІЯ

Упершыню трансляцыі фестывалю ў Маладзечне займеюць пашыраны выгляд. Будзе створана шэсць тэлевізійных версій мерапрыемстваў. У іх ліку, канечне ж, урачыстае адкрыццё 13 чэрвеня і трэці, заключны тур Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні. Дарэчы, ён адбудзецца ў амфітэатры, які з'явіўся дзякуючы «Дажынкам». Вельмі неблагая пляцоўка, якая сапраўды патрэбна была Маладзечну — гораду фестывальнаму.

## СТАЛІЦА МІНШЧЫНЫ

Маладзечна — творчая сталіца Мінскай вобласці... 

Маладзечна — творчая сталіца Міншчыны. Увогуле, гэта ўнікальны горад. Там выхаваны глядач. Там ёсць музычны каледж імя Міхала Клеафаса Агінскага. Там ёсць сімфанічны аркестр, народны музычны тэатр, які паспяхова працуе. Але самае галоўнае — публіка. Прычым, выхаваная яна на нацыянальным мастацтве, што вельмі важна. Кажучы «нацыянальнае», я перадусім маю на ўвазе мову, а таксама — рэпертуар, які выконваецца. На сёння фестываль мае сталую беларускамоўную платформу.

## МОВА

Генадзь Цітовіч сказаў: «Песня — душа народа». Я перафразую: мова — душа народа. Калі гавораць, што мову забыліся, на ёй не размаўляюць, няма мовы — я магу сказаць, што ёсць. Прыязджайце ў Маладзечна, і вы яе і адчуеце, і пачуеце. Там сапраўды пануе атмасфера беларускасці. Я ведаю, бо ўжо шмат гадоў бываю на гэтым фестывалі.

## ПРАГРАМА-2014

Чамусьці, кажучы пра Маладзечна, перадусім маюць на ўвазе эстраду. Але гэта меркаванне памылковае. Сёлета будуць выступленні Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Генадзя Цітовіча пад кіраўніцтвам Міхася Дрынеўскага, народнага артыста Беларусі; канцэрт акадэмічнай музыкі ў Маладзечанскай музычнай школе (выступаюць камерныя калектывы Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі). Што да эстрады, 13 чэрвеня пасля трэцяга тура конкурсу будзе канцэрт «За нашу Перамогу», дзе прагучаць знакамітыя песні ваенных гадоў, а таксама пра вайну на беларускай мове: Міхаіл Фінберг адмыслова замаўляў пераклады.

Цэнтральнай падзеяй другога дня можна лічыць сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі, якія спачатку традыцыйна наведаюць Вязынку, а потым прыедуць у Маладзечна. У малой зале Палаца культуры адбудзецца паэтычная гасцёўня «Каб любіць Беларусь…»: у назве — словы са знакамітага верша Алеся Ставера; гэты ж радок з'яўляецца слоганам тэлеканала «Беларусь 3», які з'яўляецца асноўным арганізатарам імпрэзы.

Сэнс сустрэчы я мог бы патлумачыць так. Я б хацеў, каб глядач, які не ведае, што выдаюць нашы пісьменнікі, прыйшоў і ўбачыў, што яны ёсць і яны працуюць. Але самае галоўнае — каб у сваіх выступленнях літаратары выказалі думкі пра Беларусь: што яна *ёсць* у іх творчасці, што яна *жыве*, стварае, што творчасць не загінула. Хочацца таксама, каб прагучалі пытанні з залы. Каб не недзе на кухні казалі: «Ай, у нас нічога няма», — а запыталіся ў пісьменніка — чаму няма? — ці падзякавалі яму за творчасць.

У 16.00 у вялікай зале Палаца культуры пройдзе канцэрт «Песня мая». Праграму складуць выключна беларускія песні, і прыкладна палова іх — з нашага праекта «Наперад у мінулае» (журналіст едзе ў глыбінку, запісвае аўтэнтычныя песні, і наш Тэа — Юрый Вашчук — робіць сучасную аранжыроўку; потым айчынныя спевакі гэтыя песні выконваюць). У канцэрце таксама возьмуць удзел лаўрэаты і ўладальнікі Гран-пры Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні розных гадоў. З вядомых выканаўцаў будуць Пётр Ялфімаў, Вікторыя Алешка, Тэа, ансамблі «Чараўніцы» і «Чысты голас», оперны спявак Рыгор Палішчук, народныя артысты Беларусі Эдуард Зарыцкі і Эдуард Ханок.

І ў той самы дзень у Амфітэатры, а 21.00, — заключны канцэрт фестывалю «Спадчына песняроў», прысвечаны 45-годдзю ансамбля «Песняры».

## БОЛЬШ ЧЫМ СВЯТА

Фестываль у Маладзечне — гэта падзея не на два дні. Ён існуе больш як 20 гадоў, хоць і перажываў розныя мітрэнгі, не раз быў на мяжы закрыцця. Але Міхаіл Фінберг, які быў адным з ініцыятараў стварэння фестывалю, заўжды адстойваў, дабіваўся яго захавання, падтрымліваў свята. Сёння фестываль праводзіцца па распараджэнні Кіраўніка дзяржавы, што надае яму асаблівы статус.

У нас ёсць высокапрафесійныя і таленавітыя кампазітары. Паэты — таксама. Місія фестывалю — звесці разам трох чалавек: кампазітара, паэта і выканаўцу. У гэтым сэнсе маладзечанскі фестываль унікальны.

Няпраўда, што ён малавядомы. Сюды прыязджае шмат гасцей. Больш за тое: тэлеканал «Беларусь-24» будзе трансліраваць асобныя мерапрыемствы на замежжа, бо фестываль знакавы для Беларусі і вызначае нашу нацыянальную прыналежнасць, што заўсёды было надзвычай важна: дзе мы, хто мы, якой мовай гаворым і спяваем.

## БЕЗ ШЫКУ, АЛЕ З ГУСТАМ

Так, даўней пераможцам конкурсу маладых выканаўцаў давалі машыну, і з фестывалю яны з'язджалі на жыгулях. Цяпер даюць грашовую прэмію, і даволі важкую. Але вось што я магу сказаць: калі вы думаеце, што так проста знайсці ў кожнай вобласці моцных выканаўцаў — дык гэта не так проста. Існуе ж яшчэ і рэпетыцыйны працэс, калі абранцы прыязджаюць сюды, рэпецыруюць з аркестрам, з маэстра Фінбергам, і гэта вельмі адказна. Так, з рэспублікі набраўся 21 удзельнік — па тры з абласцей плюс Мінск. Канечне, ёсць яшчэ і папярэдні адбор.



Сапраўды, падчас самага першага адкрыцця на гледачоў з верталёта скідвалі кветкі. Але на той час было вельмі лаяльнае — калі ўвогуле было — заканадаўства наконт спонсарства. І, зразумела, у конкурсу на гэтай хвалі было шмат значных уліванняў. Сёння асноўны цяжар на сябе бярэ дзяржава. Цяпер такога шыку, як кветкі з верталёта, не будзе. Да таго ж, раней людзі ішлі па запрашальных білетах. Сёння білет трэба купляць. Зрэшты, нават калі казаць пра сусветную практыку, тыя ж оперныя спевакі атрымліваюць свае вялізныя ганарары далёка не ад продажу білетаў: грошы даюць спонсары, якія нешта за гэта маюць. Таму дзякуй богу, што ёсць дзяржаўныя сродкі. Але магу вас запэўніць, што і афармленне сцэны, і самі канцэрты будуць выглядаць не менш прыстойна за камерцыйныя праекты. Фестываль будзе новым і цікавым.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Беларуская паэзія з Мікалаева

У яркім сузор'і знакамітых імёнаў, якімі па праве ганарацца беларусы, значнае месца займаюць народныя паэты Беларусі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк, Ніл Гілевіч, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў, Рыгор Барадулін... Вялікія майстры беларускага слова, аўтары паэтычных шэдэўраў, яны ўвайшлі ў залаты фонд не толькі нацыянальнага, але і сусветнага пісьменства.

Ушанаваць выдатных паэтаў Беларусі, папулярызаваць іх творчасць, далучыць украінскіх чытачоў да літаратурнай спадчыны беларускіх класікаў вырашыла ініцыятыўная група беларускай дыяспары Мікалаеўскай вобласці.

Ініцыятарам і непасрэдным арганізатарам мерапрыемства выступіла наша зямлячка, ураджэнка вёскі Сіманавічы Глускага раёна Магілёўскай вобласці Таццяна Дзяменнікава (Белавушка), якая цяпер жыве ў Мікалаеве. Ініцыятыву падтрымаў Савет нацыянальнасцей Мікалаеўскай вобласці, Упраўленне культуры, нацыянальнасцей і рэлігій аблдзяржадміністрацыі, а таксама Цэнтральная бібліятэка імя Марка Крапіўніцкага, дзе і адбыўся вечар творчасці беларускіх паэтаў «Вялікія майстры беларускага слова».

Наш зямляк, палкоўнік ракетных войскаў у адстаўцы, удзельнік партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі Іван Прыстаўка, малая радзіма якога знаходзіцца на Віцебшчыне, прачытаў вершы Янкі Купалы «Я мужыкбеларус...» і Аркадзя Куляшова — «Камсамольскі білет». Іван Сямёнавіч не проста цікавіцца беларускай паэзіяй, але і вядзе актыўную працу ў Савеце ветэранаў Мікалаеўскай вобласці, удзельнічае ў мерапрыемствах, якія праводзіць беларуская дыяспара Мікалаеўшчыны.

Валянціна Лебедзева, якая нарадзілася ў вёсцы Майскае Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці, прачытала творы Пімена Панчанкі. Дарэчы, Валянціна Мікалаеўна была асабіста знаёмая з паэтам і на вечарыне падзялілася ўспамінамі пра свае сустрэчы...

З творчасцю Якуба Коласа гледачоў пазнаёміла Галіна Голуб, ураджэнка гарадскога пасёлка Зялёны Бор Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці. Яна прачытала верш класіка беларускай літаратуры «Родныя вобразы».

У вечары беларускай паэзіі ўдзельнічалі і дзеці этнічных беларусаў, якія таксама цікавяцца гістарычнай радзімай сваіх бацькоў.

Не абышлося на вечары беларускай паэзіі і без прыемных сюрпрызаў. Некаторыя беларусы, якія жывуць у Мікалаеве, таксама пішуць вершы. Іна Максіменка (Качэўская), ураджэнка Віцебска, выпускніца журфака БДУ, прачытала свой верш, які спецыяльна напісала да такога цудоўнага вечара.

На вечарыне прагучалі запісы песень у выкананні беларускіх ансамбляў, а таксама адбыўся паказ відэасюжэтаў, якія пазнаёмілі прысутных з Рэспублікай Беларусь. У межах мерапрыемства адбылася і выстаўка традыцыйных вырабаў прадстаўнікоў беларускай дыяспары Мікалаеўшчыны. У вобласці пражывае больш як 8 тысяч этнічных беларусаў.

— Мы вельмі любім Украіну. Тут мы жывём, працуем, тут нарадзіліся нашы дзеці, а ў некаторых — унукі і праўнукі. Гэта таксама наша радзіма, і мы перажываем за яе лёс, за яе будучыню. Правядзенне вечароў творчасці беларускіх паэтаў спрыяе ўмацаванню дружбы паміж народамі Беларусі і Украіны і больш глыбокаму разуменню нацыянальных асаблівасцей, традыцый і самабытнай культуры беларускага народа, — перакананая Таццяна Дзяменнікава.

**Мікалай БОЙКА**

*За падзеяй*

# Ва ўспамінах пра Паэта


фота Наталі Купрэвіч

*Алег Ждан прэзентуе кнігу, прысвечаную Юрыю Сапажкову.*

Вечар памяці паэта і перакладчыка Юрыя Сапажкова адбыўся днямі ў межах сумеснага праекта Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі «Творчае сяброўства».

Юрый Міхайлавіч пайшоў з жыцця 5 чэрвеня мінулага года. А сёлета яго паплечнікі і калегі завіталі ў Дом Коласа, каб падзяліцца згадкамі пра творцу.

Намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Алесь Бадак прыгадаў сумесную працу з Юрыем Сапажковым у часопісе «Нёман», дзе Юрый Міхайлавіч з'яўляўся рэдактарам аддзела паэзіі і рубрыкі «"Всемирная литература" в "Нёмане"». Паводле ўспамінаў Алеся Мікалаевіча, Ю. Сапажкоў любіў паэзію, сваю працу, заўсёды радаваўся кожнаму добраму вершаванаму радку. А. Бадак падкрэсліў: таму, хто сам піша вершы, як правіла, цяжка прызнаць, што ўдалы радок належыць іншаму. А Юрый Міхайлавіч падчас працы адкрыў мноства новых імёнаў (вершы гэтых аўтараў сістэматычна друкаваліся ў «Нёмане» пад рубрыкай «Одно стихотворение»). Ён часта выступаў перад моладзевай аўдыторыяй, яго любілі школьнікі і студэнты. «Сёння перад намі стаіць задача зберагчы напісанае Юрыем Сапажковым», — падкрэсліў Алесь Мікалаевіч.

Вялі імпрэзу рэжысёр Беларускага радыё, артыст Алег Вінярскі ды маладая актрыса і сцэнарыст Аляксандра Шпартава, якія перад кожным выступленнем чарговага госця дэкламавалі па адным вершы Юрыя Сапажкова.

Рэдактар аддзела прозы часопіса «Нёман», пісьменнік Алег Ждан зазначыў, што ў рэдакцыю прыходзяць розныя аўтары, многія з якіх ставяць пад сваімі творамі дату напісання. Гэта — жаданне спыніць імгненне шчасця, калі твор здаецца дасканалым. У адрозненне ад іх, пад творамі, напісанымі і апублікаванымі Юрыем Сапажковым, ніводнай даты няма. Сам паэт лічыў, што галоўнае ў вершах — думка.

Па словах паэтэсы Наталлі Кучмель, сутнасць сапраўднай паэзіі палягае ў простасці і дарэчнасці. Н. Кучмель згадала, што для асобы Юрыя Сапажкова былі характэрны чысціня і імкненне не пакрыўдзіць іншага чалавека. У Дом Коласа завітала і кампазітар Аліна Безенсон. У запісе ў выкананні спявачкі Галіны Сакольчык прагучаў вакальны цыкл «В мире животных» (словы Ю. Сапажкова, музыка А. Безенсон). Раманс «Флейта» на словы паэта выканаў спявак Альберт Скараход.

У межах вечара адбылася прэзентацыя кнігі «Тёплое пожатие руки: литературное приношение Юрию Сапожкову» (Мінск, 2014), ідэя якой належыць Т. Шпартавай, а рэдактарам з'яўляецца Алег Ждан. Алег Аляксеевіч шчыра падзякаваў усім, хто спрычыніўся да таго, каб выданне пабачыла свет.

Старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў прыгадаў, як яны з Юрыем Міхайлавічам рыхтавалі да друку часопісныя падборкі вершаў.

Пры канцы імпрэзы быў паказаны дакументальны фільм пра Юрыя Сапажкова «Пяць хвілін з жыцця» (аўтар сцэнарыя Таццяна Шпартава, рэжысёр Анатоль Шпартаў).

**Яна ЯВІЧ**

*Акцыя*

## «А падпішыце на руцэ!..»

10 чэрвеня ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» у краме «Крыніца ведаў» (філіял ААТ «Белкніга») г. Барысава адбылася сустрэча з пісьменнікам Генадзем Аўласенкам. Літаратар прадставіў сваю творчасць і кнігі, якія пабачылі свет апошнім часам у Выдавецкім доме «Звязда», «Мастацкай літаратуры», выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Сустрэцца з аўтарам, паслухаць урыўкі з яго твораў і абмеркаваць сучасную літаратуру прыйшлі дзеці малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту. Не вагаючыся яны абралі мову сустрэчы беларускую.

Генадзь Пятровіч распавёў пра сябе і пра тое, як і калі пачаў літаратурную дзейнасць. Г. Аўласенка ўцягнуў дзячынак і хлопчыкаў у дыскусію-гульню пра тое, як зімуюць розныя звяры і ці ўсё напісана ў творы правільна. Высветлілі, што мядзведзь не скача па гурбах, барсук не ўе гняздо, а лось не смокча лапу ў бярлозе. Падрабязна распавёў пісьменнік пра серыю кніг, прысвечаных Ветрыку з вентылятара. З не меншай увагай і зацікаўленасцю паслухалі дзеці верш з «дарослай» кнігі Г. Аўласенкі. Генадзь Пятровіч пазнаёміў дзяцей і са сваёй фантастычнай кніжкай «История вместо математики», а таксама распавёў, чаму яе трэба чытаць ноччу ў цемры.

Дзеці слухалі ўважліва, задавалі Генадзю Пятровічу пытанні. А пасля арганізавалі спантанную аўтограф-сесію: падавалі для подпісу і простыя лісткі, і флажкі акцыі, а некаторыя прапаноўвалі распісацца на бейсболцы ці руцэ.

**Наталля КАРАСЁВА**

## Новае вымярэнне

Часопісу «Маладосць» няма патрэбы трымаць справаздачу перад падпісчыкамі, ці не так? Нават болей: мяркуючы па папулярнасці надрукаванага ў першым паўгоддзі, для падпісчыкаў на паўгоддзе наступнае нават «прамоўшн» не так важны. Бо добры тавар у рэкламе патрэбы не мае, а пра тое, што новая «Маладосць» — менавіта тавар (у найлепшым з сэнсаў слова), і добры, сумненняў быць не можа. Прамоўшн, аднак, патрэбны тым, хто «Маладосць» дагэтуль не выпісвае. Такім чынам…

У другім паўгоддзі часопіс «Маладосць» не толькі знаходзіць усё болей маладых эксперыментатараў у прозе і паэзіі, дык яшчэ і працягвае эксперыментаваць уласна з «абалонкай». Рыхтуе «двухтомнік» «Планета Палессе», выводзячы рэгіянальныя — гомельскі дзявяты і берасцейскі дзясяты — нумары на міжнародны прастор: аб'ядноўваючыся адпаведна з суседзямі — літаратарамі Бранска і Любліна. Выпраўляецца ў вандроўку па слядах Караткевіча — з мэтай стварыць «Званы ў прадонних азёр-2», бо першым сёлета ўжо 45. Друкуе ўспаміны паважных людзей, даследуе лёсы, рыхтуе прысвячэнне юбіляру Агінскаму і нават збірае «калядны» нумар.

Да ведама, у жніўні пад вокладкай «Маладосці» дубліруецца пілотны нумар адноўленага часопіса «Бярозка».

Пароль для індывідуальнага падпісчыка: 74957.

**Святлана ДЗЯНІСАВА**

# Сустрэнемся пасля вакацый

Плённа працавалі на працягу 2013 — 2014 навучальнага года ў сталічнай гімназіі № 20 і гімназіі-каледжы імя І. В. Ахрэмчыка літаратурныя клубы «Пад белымі крыламі» і «Сябрына». Ініцыятарам іх стварэння пры згаданых навучальных установах стала Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

На запланаваных пасяджэннях у навучэнцаў была магчымасць сустрэцца з шэрагам сучасных пісьменнікаў, сярод якіх — Ніна Галіноўская, Юрась Нераток, Міхась Пазнякоў, Віктар Праўдзін, Дзмітрый Пятровіч, Уладзімір Мацвеенка, Вольга Сакалова, Сяргей Трахімёнак, Віктар Шніп і шмат іншых.

Рыхтавала імпрэзы і прадстаўляла гасцей творчы кіраўнік клубаў, супрацоўнік Мінскага гарадскога аддзялення СПБ паэтэса Іна Фралова.

Пісьменнікі закранаалі самыя шырокія тэмы: ад філасофскага пошуку сябе да вечнай і ўзнёслай тэмы чалавечых адносін. Кранальна гучалі вершы пра маці з вуснаў Міхася Пазнякова. Запамінальнымі для слухачоў сталі ўспаміны Віктара Шніпа, у якіх ён узгадваў першыя сцяжынкі ўласнага творчага шляху. Ніна Галіноўская для аўдыторыі пачатковых класаў правяла сапраўдны «ўрок сяброўства» з птушыным і жывёльным светам. Вольга Сакалова з хваляваннем узгадвала родную вёсачку, Юрась Нераток пазнаёміў з новым лірычным героем Нікам Абломавым, ад імя якога была напісана значная частка апошніх твораў. Не засталася па-за ўвагай тэма Вялікай Перамогі. Так, Уладзімір Мацвеенка, дзяцінства якога прыйшлося на ваенныя гады, узгадаў эпізоды з жыцця сваёй сям'і падчас акупацыі роднага Мінска. Расказаў пра рэчы, на якія мы ў сённяшнім мірным жыцці не звяртаем увагі. Сяргей Трахімёнак пазнаёміў слухачоў з юнымі героямі кніжкі «Крошки», іх равеснікамі, якія па волі лёсу падчас вайны вялі баявыя дзеянні ў складзе вайсковага фарміравання, і прапанаваў аўдыторыі фільмы на згаданую тэматыку — «Крэпасць над Бугам», «Ледзь смялей за іншых».

Наперадзе — чаканая пара летніх вакацый. Гэта час, калі ў школьнікаў будзе больш вольнага часу, каб пазнаёміцца з творамі сучасных пісьменнікаў.

**Ганна СТАРАДУБ**

Калектыў Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі з глыбокім смуткам паведамляе, што на 93-м годзе жыцця памёр член Саюза пісьменнікаў Беларусі, генерал-лейтэнант у адстаўцы ІВАНОЎ Юрый Сцяпанавіч. Удзельнік Вялікай айчыннай вайны, ён займаў высокія пасады ва Узброеных Сілах СССР, лаўрэат многіх дзяржаўных узнагарод, аўтар шматлікіх кніг прозы.

Выказваем сардэчныя спачуванні яго родным, сябрам, калегам, знаёмым у сувязі з незаменнай стратай выдатнага чалавека.

## Віктар ШНІП



* * *

*І колькі б сёння ні расці траве,*
*Ды ёй да неба не дастаць ніколі,*
*Дзе зорак россып і дзе Бог жыве,*
*Дзе час імчыць, нібы агонь па полі,*
*Па ўсім, што ёсць, што будзе, што было,*
*Што робіцца травой і ў ёй знікае.*
*У спелых яблыках жыве святло,*
*Жыве ў зярнятах чорных, прарастае*
*Святло святлом, сярод густой травы,*
*Якая хоча дарасці да неба,*
*Дзе толькі, пэўна, Бог адзін жывы,*
*Дзе ў сонцы золата, а ў поўні срэбра*
*Кіпяць і праліваюцца на свет,*
*Дзе мы жывём, змагаемся з травою,*
*Дзе вершы піша сумныя паэт*
*І неба падымае над зямлёю,*
*Каб да нябёс не дарасла трава…*

* * *

*У пяску не схавацца ад сонца нікому,*
*У пяску можна проста*
*дашчэнту звугледь*
*І хмурынкай маленькай*
*вярнуцца дадому,*
*Ну а можна й вялікай, як белы мядзведзь.*
*І цябе аніхто не пазнае ніколі,*
*Бо цябе ўжо не будзе, як і не было.*
*Праплывеш ты і знікнеш*
*самотна над полем,*
*Па якім ты хадзіў шчэ нядаўна й цяпло*
*Родных кветак збіраў і глядзеў у нябёсы,*
*У сінечу, нібыта ў марскую ваду,*
*Па якой ты хацеў, як Хрыстос, ісці босы*
*І сачыць, як уноч зоркі ў небе растуць.*
*Ды ў пяску не схавацца ад сонца нікому,*
*Ён гарачы, як сонца. Па сонцы ідзеш,*
*І табе тут цудоўна, цудоўна, як дома…*
*Толькі ўсё ж табе дома бывае і лепш…*
*І таму ты хоць крыху, але ўсё ж самотны*
*Па Айчыне, якая далёка і тут*
*Над табой, дзе аблокі,*
*нібыта палотны,*
*На якіх толькі ты бачыш*
*родны свой кут…*

* * *

Сябру

*Нашы мамы даўно ўжо не з намі.*
*Нашы мамы ляжаць пад крыжамі,*
*Што паставілі мы, каб запомніць дарогу,*
*Па якой нашы мамы пайшлі, каб і Богу*
*Расказаць пра наш свет,*
*у якім мы жывём,*
*Быццам бы матылі*
*па-над вечным агнём.*
*Нашы мамы заўжды будуць з намі,*
*Нашы мамы ўжо сталі крыжамі,*
*На якіх мы да скону распяты*
*За жыццё, у якім ёсць і сьвяты…*

* * *

*Зоркі ў небе, а мы на зямлі,*
*І нам хочацца зоркамі быць*
*Не ў нябёсах, дзе мы не былі*
*І не будзем, пакуль будзем жыць*
*У граху, што душу вырывае,*
*І душа ледзь жывым матылём*
*Каля нас адзінока лятае*
*Над травой, як над вечным агнём…*

* * *

*Як парэзаныя вены, вершы*
*У цябе былі, ты імі жыў*
*І у вечнасць ты пайшоў з нас першы,*
*Разлюбіўшы восень і дажджы,*
*Што былі заўсёды вінаваты*
*У самоце і ў балоце тым,*
*У якім мы топімся і хаты*
*Шэрыя, як адзіноты дым,*
*Ад якога слёзы, нібы вершы,*
*Затапляюць сэрца і душу…*
*Ты даўно памёр, але жывеш ты*
*У тых вершах, дзе няма дажджу…*

* * *

*Не патрэбна нікуды спяшацца,*
*Бо і так час ляціць, як страла*
*У прасторы, дзе ўсё, як са шкла,*
*Разбіваецца і разбівацца*
*Будзе вечна цяпер і заўсёды.*
*І глядзіш ты на свет, як на шкло,*
*Праз якое праходзіць святло*
*Адзіноты людской і самоты.*
*І ты шэпчаш малітву да Бога*
*І не просіш у Бога нічога,*
*Бо і так час ляціць, як страла*
*У прасторы, дзе ўсё як са шкла…*

* * *

*Заўтра будзе патоп і затопіцца свет,*
*І ўсё знікне ў вадзе,*
*толькі мамін партрэт,*
*Што цяпер на сцяне,*
*адарвецца з цвікоў,*
*Каб мяне ўратаваць,*
*каб вярнуўся дамоў,*
*Дзе нікога няма, дзе патопам трава*
*Захапіла наш двор,*
*і наш дом ратаваць*
*Трэба мне, бо ўжо заўтра*
*затопіцца свет*
*І ўсё знікне ў траве,*
*нават мамін партрэт…*

## Канстанцін БАЛЬМОНТ



## Кропля

*Ў глухую студню, што ўжо забыта*
*і перасохла, як марны лёс,*
*Упала кропля — не дажджавая,*
*а кропля зоркі з начных нябёс.*

*Ляцела зорка сцягой падучай*
*і дагарэла амаль датла,*
*І толькі іскра, і толькі кропля*
*дарыла водбліск яе святла.*

*Упала кропля не ў мнагаводдзе,*
*не ў паўнагучча вады рачной,*
*Не ў стэп, дзе воля, не ў зелень гаю,*
*не ў пошум вецця сцяны лясной.*

*З начнога неба яна упала*
*не ў бездань мора, не ў вадаспад,*
*І не на поле, не ў роўнядзь лугу,*
*і не ў багаты квяцісты сад.*

*Упала ў студню, што ўжо забыта,*
*дзе сумавала ў бязводдзі дно,*
*Упала кропля сцяжынкай светлай,*
*ад небнай высі да ніў — звяно.*

*Калі, стамлёны, аднойчы прыйдзеш*
*да студні гэтай, каб збыцца ран,*
*Вады там досыць, у студні — вільгаць,*
*і ў сэрцы — песня, ў душы — раман.*

*Але на стыку зямлі і неба*
*мільгне світанак, бы неўпрыкмет, —*
*Паблякне студня, адно на краі*
*расы вільготнай запромніць след.*

## Восень

*Гукаю ў полі. Глухое поле*
*Мне шле свой голас жальбы і болю.*
*А ў высі небнай па-над далінай*
*Палёт гусіны і жураўліны.*

*Там хтосьці дужы грукоча ў бубны*
*І шле нам свісты і голас трубны.*
*А хтосьці светлы у хмары-сховы*
*Трохкутнік шэры прыняць гатовы.*

*Крычалі птушкі ў паднеб'і сінім*
*І адляталі ў свае пустыні.*
*А я застаўся ў асенняй долі —*
*На зжатым, змятым, бясплодным полі.*

## Царкі лясныя

*Царкі лясныя — то шумавыя,*
*то агнявыя, як маякі.*
*Тут засмяюцца, там азірнуцца*
*і загарацца паўзверх ракі.*

*Пасля ў гушчарах начэпяць лікі,*
*на кожным — хвацкі такі убор.*
*Адзін — як траўка, другі — бы п'яўка,*
*той — птушка слаўка, той — мухамор.*

*Той землямерам вядзе па лісці,*
*складны аршынчык зялёны — ён.*
*Лісток абмераць — як важна гэта,*
*ва ўсім ёсць мера, ва ўсім закон.*

*А вунь знахарка, што ў далях лугу*
*нястомна весніць шырэч лугоў,*
*Хоць і не жонка, але ў палёце*
*яна сяброўка лясных царкоў.*

*А вунь — з кагорты нямых прарочыц —*
*у сарафане, што з серабра, —*
*Завуць то рыбкай, а то плаціцай,*
*заві царыцай: даўно пара.*

*І не падумай, што дзве уліткі*
*ўзвялі закідкі свае на «ўра».*
*Вядуць сцяжынку, яшчэ й складаюць*
*псалмы на славу і чэсць цара,*

*Якому служаць царкі лясныя,*
*з кім час свой бавяць амаль штодня,*
*Каму — пахвала, каму — падзяка,*
*і ўваскрасенне, і вышыня.*

**З рускай мовы пераклаў**
**Мікола ШАБОВІЧ**



*Фота Кастуся Дробава*

## Аксана ЯРАШОНАК



## Дачнае

*Сезон спякотна-агурочны*
*Усталяваўся не на жарт.*
*І са шматпавярховак змрочных*
*Паклікаў да вясковых хат.*
*Тут папрацуем і памарым,*
*Напішам новых вершаў стос.*
*Тут нам і фітнэс, і салярый*
*Заменіць добры сенакос!*

## Суаўтар

*А ты прыходзіш у мае радкі,*
*Шукаеш рыфмы і складаеш строфы.*
*Міргне між літар позірку блакіт —*
*І ўжо чарговы верш амаль гатовы.*

*Калі ж пяшчота цёплых моцных рук*
*У непагадзь жыццёвую саграе,*
*То закаханых сэрцаў ціхі стук*
*Зноў загучыць задумлівым харэем.*

*Ты ў вершах розны, так, як і ў жыцці:*
*Вясёлы, сумны, часам вінаваты.*
*Шчаслівы лёс мне дапамог знайсці*
*Цябе, маёй паэзіі суаўтар.*

## Чэрвень

*Чэрвень распрануў да шортаў,*
*Промнікі з нябёсаў звесіў,*
*І прашапацеў лістотай:*
*— Хопіць, мілая, дэпрэсій…*

*Напаіў сунічным сокам,*
*Адурманіў зеляніна*
*І на шчокі з-пад аблокаў*
*Цёплыя дажджынкі скінуў.*

*Разняволіў, развяселіў,*
*Хваляю рачной аблашчыў,*
*Падарыў смуглявасць целу,*
*А душу напоўніў шчасцем.*

***

Няма таго, што раньш было…
**Максім Багдановіч**

*Сумую разам з класікам*
*Над тым, што больш не вернецца.*
*Не хоча час спыняцца,*
*А ў памяці заўжды*
*На тоненькіх абцасіках*
*Па доўгай-доўгай лесвіцы*
*Бягуць майго юнацтва*
*Шчаслівыя гады.*



# Надзея ВЕЧАР
# Над хатамі дзяцінства
## *Абразкі*

### БУСЕЛ

Усім падабаецца гэтая птушка. Хто з нас не назіраў, як буслы важна чыкіляюць па палях, пільна прыглядаючыся да наваколля ў пошуках ежы. Белае апярэнне з чорным на кончыках крылаў прыгожае як на лузе, так і ў небе. Доўгая дзюба залезе і ў норку, і ў невысокай балотнай вадзе дастане ахвяру. Цыбатыя ногі «абуты» ў чырвоныя боты, заўсёды чыстыя, дзе б бусел ні ступаў.

Любяць сяліцца ў вёсках, паблізу да людзей, на вяршалінах самых высокіх дрэў з сухіх галінак робяць вялікія раскідзістыя гнёзды. Людзі запрашаюць іх да сябе, зацягваюць на хаты і прысады старыя драўляныя бароны альбо спецыяльна зробленыя рашоткі. Буслы адразу цікавяцца гэтымі ўжо гатовымі падмуркамі для гнязда. Буслянят бывае нямнога — ад аднаго да трох. Пракарміць іх цяжка, то сядзяць яны ў гнёздах, пакуль не вырастаюць амаль да дарослых птушак.

У мясцовасці, дзе я праводзіла летнія канікулы, буслы былі рэдкасцю, то ўздоўж палёў і сенакосаў праляглі глыбокія асушальныя канавы, у якіх таксама рэдка дзе стаяла вада. Па поплаве з купінамі, пакрытымі дзівоснымі травамі і кветкамі, хадзіла некалькі буслоў. Мы падкрадаліся, каб лепей разглядзець, але тыя блізка не падпускалі. Шырокі ўзмах крылаў — і бусел ужо кружляе над поплавам. Была такая прыкмета: у гэты час трэба кульнуцца цераз галаву, каб выраслі вялікімі і дужымі. І мы куляліся на тых мяккіх купінах. Не ў кожнага спачатку выходзіла, патрэбна было куляцца, пакуль не атрымаецца прыгожа. Вось такія былі «трэніроўкі» па гімнастыцы, а буслы, нібы трэнеры, плаўна апісвалі кругі ў сонечнай вышыні.

У чатыры гады мне прысніўся сон. Гляджу ў неба, яно такое насычанае, блакітнае, але ўсё пакрыта буслямі і фашысцкімі самалётамі са свастыкай. Мяне апаноўвае жах. Я гляджу ў гэтае неба і малюся, каб зніклі тыя самалёты, і яны паступова знікаюць, а ў блакіце — толькі шматлікія буслы. Выглядвае і ярка ззяе сонейка, а да мяне вяртаецца радасць жыцця. Пасля страшнай вайны прайшло няшмат часу, і мы, маленькія, наслухаўшыся шмат пра жахі таго ліхалецця, яшчэ доўга прыглядаліся да самалётаў і шукалі на крылах чырвоную зорку.

Такое хараство са шматлікімі буслямі ў блакіце неба над хатай майго дзяцінства бачылі жыхары вёскі Замошша на Случчыне два разы ў год. Першы — калі ў вырай збіраецца моладзь, пералётныя птушкі з больш паўночных раёнаў кружаць над кожным гняздом, запрашаючы з сабой у цёплую Афрыку мясцовых. Праз некаторы час усё паўтараецца з дарослымі буслямі.

### ГАРБУЗЫ

У вёсках на Случчыне заўсёды збіралі шмат гарбузоў. Яны ляжалі восенню на градках, вялізныя — не падняць, з рознымі малюнкамі і колерамі. Ад яркааранжавага да цёмна-зялёнага. Адны каляровыя, паласатыя, з пераходамі ад светлага да цёмнага, простымі палоскамі ці карункавым малюнкам аднаго колеру на другім. Дзе не трапляла сонца, наадварот, яно як бы высвечвалася на схаваным ад яго баку прыгожай бляшкай ад бэзавага да аранжавага колеру. Мне падабалася выбіраць самы прыгожы гарбуз з вялікай кучы, што даспявалі ў агародзе. Усю зіму вечарамі мы лускалі гарбузікі. З мякаці амаль нічога не гатавалі, кармілі скаціну. Каровы ці козы добра прыбаўлялі малака, а свініна была смачнейшая і болей мясная. Куры ахвотна дзяўблі мякаць з выкладзеных для іх кавалкаў.

У вайну гарбузы былі не толькі карміцелямі, але і выратавальнікамі. Немцы ў нашай вёсцы не стаялі. Вёска невялікая. Вакол лясы. Шмат партызан. Аднак карнікі наведваліся часта, учыняючы аблавы. Забіралі моладзь на катаргу ў Германію. Людзі хаваліся хто дзе змог. Шукалі па хатах, хлявах, сенавалах. А ў маіх дзядулі з бабуляй на агародзе быў выкапаны вялікі пограб. Зверху засыпаны глебай, і на ёй густа пасаджаны гарбузы. Зеляніна звілася лістотай у вялікі прыгожы дыван. Ураджаю чакаць ад такой густэчы не даводзілася. Але ж і гарбузы не для гэтага высяваліся.

Гарбузовы дыван поўнасцю закрываў пограб, і ніякае, нават пільнае, вока ворага не магло западозрыць там схованку моладзі з усёй вуліцы. Як толькі хтонебудзь крычаў: «Аблава!» — усе кідаліся да гэтага сховішча пад гарбузамі. Народу набіралася шмат і, каб не задыхнуцца, з гарбузовых сцяблін выразалі трубачкі і ўстаўлялі вертыкальна ў столь пограба. Дыхаць цераз тыя трубачкі было цяжка, стаяла духата, па тварах сцякаў пот, але ўсё трывалі — выбару не было.

У той дзень Сонечка ішла аднекуль паза агародамі. Крыкі пра немцаў не чула, а толькі ўбачыла аднаго з іх, што бег да яе і патрабаваў спыніцца. Сонечка кінулася ўцякаць да выратавальніка-пограба. Бегчы трэба было вельмі шпарка, каб немец не заўважыў схованку, інакш усім канец. Яна бегла, а немец спыніўся і страчыў па ёй з аўтамата. Жудасны свіст куль навакол, але яна бегла з апошніх намаганняў. Каб страляць было зручней, немец спыніўся, чым даў Сонечцы шанц схавацца пад гарбузамі. З нашай вуліцы ў Германію не вывезлі нікога. Выратавалі ўсіх гарбузы.

Пра гэты выпадак са свайго жыцця апавядала мне мама.

### ЛЕГЕНДА

Невялікая беларуская вёсачка Гута схавалася паміж лясоў і балот. Жыццё ішло паціху. Раслі дзеці. Кахаліся. Жаніліся. Будавалі новыя хаты, і ўжо ў іх выраслі дзеці. Зімой на санях у лес па дровы ды бярвенне для будоўлі. А летам хапала працы і ў нешматлікіх палях, але найбольш вабілі грыбы, ягады, рыба ў невялікай рэчцы. Тут і людзі жылі прыгожыя, з адкрытай душой, добрыя і дружныя. Пад гукі гармоніка на святы збіралася ўся вёска: моладзь, малыя і старыя. І хаты для маладых будавалі разам, талакою. Драўляныя з саламянымі стрэхамі. І, здавалася, ніпто не можа парушыць гэтай цішыні за вокнамі, акрамя пеўняў, ці карова падасць голас, каб адчынілі вароты ісці на пашу альбо ўпусцілі ў двор. Сабака часам забрэша на котку ці свінню, якая зайшла на яго тэрыторыю. У такой цішыні на высокай зеляніне дрэў сяліліся буслы.

Вайна! Не верылася, бо праваднога радыё ў вёсцы не было. А прыёмнікі з'явіліся толькі ў канцы 50-х. Немцы ў такіх вёсках спыняцца баяліся. У лясах пачалі ствараць партызанскія атрады з мясцовых жыхароў і салдат-акружэнцаў. Такія лясныя вёскі, як гэтая, усяляк дапамагалі партызанам: пяклі хлеб, дзяліліся рознай ежай, вопраткай, рамантавалі і мылі адзенне, рабілі многае іншае. Перыядычна ў вёску наведваліся немцы і паліцаі.

Пасля ўдалых вылазак партызан фашысты здзекаваліся з мірных жыхароў партызанскага краю. А ў гэты страшны дзень у вёску прыехаў атрад карнікаў. Наляцелі раптоўна на матацыклах, урываліся ў хаты, многія вяскоўцы не паспелі дабегчы да лесу. Карнікі расстрэльвалі людзей, рабавалі нажытае, хаты падпальвалі. За вёскай над полем кружылі спалоханыя буслы, а ў гнёздах задыхаліся бусляняты.

Карнікі лютавалі да цемры. Потым сабраліся ў новай вялікай хаце. Пілі, елі нарабаванае са спаленых хат. П'яныя паснулі. Вёска была ахутана дымам: гэта дыміліся галавешкі на вогнішчах ад спаленых сядзіб. П'яныя карнікі спалі цяжкім, глыбокім сном.

Летам віднее рана. Буслы ляцелі да гнёздаў карміць сваіх птушанят, але тыя амаль усе загінулі. Птушкі гаравалі ў адчаі, як маглі яны гараваць. Адзін з буслоў спусціўся на вогнішча каля свайго загубленага гнязда, узяў у дзюбу тлеючую галавешку і паляцеў да хаты, дзе спалі карнікі. Галавешку ён апусціў на саламяную страху. Салома імгненна загарэлася і ў лічаныя хвіліны запалыхала ўся страха, а потым хата. Ніхто ў ёй не прачнуўся.

Гэтую легенду ці то праўду мы, дзеці, пачулі адразу пасля вайны.

### МАЙСТАР

Вёска над ціхай рэчкай Друць. Дрэвы растуць абапал агародаў, уздоўж вуліцы, лясы раскінуліся вакол вёскі ва ўсе бакі свету. З грыбнога багацця бралі ў асноўным баравікі ды чырвонагаловікі. Туманнымі ранкамі, калі яшчэ толькі падалі на зямлю першыя промні сонца, ішлі босымі нагамі па роснай траве да рэчкі, каб у цішы асакі павудзіць рыбу, а потым весела купацца і перад сняданкам пахваліцца ўловам.

Вечарамі песні пад гармонік. А на святы аркестр з вясковых музыкаў збіраў жыхароў вёскі. Спявалі і танчылі ўсе. Полькамі ці кракавякамі ўздымалі пыл на шырокай вуліцы.

Хлопчык быў прыгожы, нібыта казачны герой. Светлы кучаравы чуб, блакітныя вочы, чорныя бровы, пунцовыя, прыгожай формы вусны. А яшчэ валодаў дапытлівым розумам. Цікавіўся фізікай. І ў сярэдзіне трыццатых падлеткам марыў пра адкрыцці ў навуцы. Заўсёды ў невялікія вольныя гадзіны нешта майстраваў. І вынік быў: змайстраваў дэтэктарны прыёмнік. Дамашнія прывыклі, што прыёмнік размаўляў без перапынку. Хаты ў тыя часы ніхто не замыкаў, заходзь куды і калі хочаш.

Вось і ў хату з уключаным прыёмнікам зайшла суседка. Пазвала гаспадароў. Не адклікаюцца, але ж нехта размаўляе. Заглянула туды-сюды, зноў паклікала — нікога. А нехта ўсё гаворыць і гаворыць. Спалохаўшыся, залезла ў падпечак. Печкі ў тыя часы займалі амаль чвэрць хаты, і пад печкай была вялікая прастора, куды складваліся розныя рэчы.

Вось і сядзела суседка ў схованцы, аж пакуль не прыйшоў дамоў радыёаматар. Ён расказаў і паказаў, адкуль чуецца размова. Суседка ў жаху кінулася прэч з гэтай хаты. У спешцы зачапілася за парог, павалілася, падхапілася і, не азірнуўшыся, шпарка пабегла да сваёй хаты. Доўгія месяцы потым баялася заходзіць да гаспадароў прыёмніка.

А хлопец той стаў ваенным хірургам. Вучыўся ў Ваеннай медыцынскай акадэміі і Кіеўскім медыцынскім інстытуце. Апераваў і лячыў параненых у баях пад Сталінградам і на Курскай дузе. Пасля вайны ўсё жыццё дапамагаў людзям.

### ВЯСНА НА ОДЭРЫ

Вясна 1945 года. Часць, у якой служыў мой тата, стаяла на Одэры. Одэр разліўся шырока, як мора, затапіўшы прыбярэжныя лугі. У часці было тры лодкі. Калі плавалі на лодках па рацэ, наглядалі сапраўдны цуд: і тут і там у траве паблісквалі вялізныя ляшчы, хоць рукамі іх бяры. І паступіў загад ад камандавання: зрабіць запасы салёнай рыбы. Трэба было спяшацца, бо рака магла вярнуцца ў свае берагі, а тады без спецыяльных прылад столькі рыбы не налавіць. Закіпела праца. Адны салдаты лавілі, другія чысцілі, мылі, салілі. Не хапала рук для перапрацоўкі рыбы, а недалёка была нямецкая вёска. Хтосьці прапанаваў звярнуцца да мясцовых жанчын, каб дапамаглі чысціць і мыць рыбу, а потым рыбай і заплаціць. Так і зрабілі. Аднак назаўтра прыйшлі толькі дзве жанчыны: маці з дачкой. Худыя, дрэнна апранутыя, самыя бедныя ў вёсцы. Цэлы дзень іх добра кармілі. Рыбы далі ў канцы дня столькі, колькі яны маглі панесці.

А раніцай на лугавіну сабралася ўжо ўся вёска — страх перад савецкімі салдатамі прайшоў. І тыя дзве ў першы дзень таксама вельмі баяліся. Трымаліся напружана, паглядалі спадылба. Ды ўсё ж рашыліся прыйсці, бо, мусіць, іншага выйсця не мелі. Праўда, на другі дзень былой напружанасці ўжо следу не было.

Салдаты нікога не адправілі дамоў. Усе працавалі дружна. Да вечара злоўленая рыба была перачышчана, памыта, засолена. Жанчын таксама не пакрыўдзілі: накармілі юшкай, далі ўдосталь рыбы з сабой. Аднак тыя не спяшаліся ісці дамоў. Нехта з салдат узяў гармонік, і паплыў вальс над Одэрам. Танцавалі ўсе. У гэты момант, здавалася, былі забыты і вайна, і голад, і стомленасць ад дзённай працы. Усё навокал поўнілася водарам вясны — з пахам рыбы, зямлі, кветак. І маладому салдату, яшчэ зусім хлапчуку, успомніліся родныя мясціны на Міншчыне. Шчыміла сэрца ад адзіноты, бо ведаў: дома няма каму чакаць, і хаты няма. А над Одэрам плылі знаёмыя і такія родныя мелодыі …

Пра тую даўнюю вясну апавядаў мне тата, які ў час вайны наводзіў кантонныя пераправы цераз рэкі. Ішлі разам з франтам. Заўсёды па пояс у вадзе, пад кулямі і бомбамі, у любы час, бо ад гэтых пераправ залежаў поспех далейшага наступлення.



Фота Кастуся Дробава



# Магічны рэалізм, альбо Беларусь у містычных апавяданнях

**Сучасны матэрыяльны свет імкнецца нівеліраваць адрознае ў людзях. Духоўны аспект бытавання чалавека, наадварот, канцэнтруецца на выяўленні адметнага як паміж людзьмі, так і паміж нацыямі. Цікавая, запамінальная літаратура ўзрастае з глебы нацыянальнага досведу — гістарычнага і ментальнага. Так, творчасць Г. Г. Маркеса ёсць літаратурным увасабленнем калумбійскай ментальнасці, якую канцэнтравана абсарбіравала ўяўленне геніяльнага пісьменніка.**




Што ў гэтым сэнсе можа прапанаваць свету беларуская літаратура? Натуральна, уласную нацыянальную ідэнтычнасць. Адметна яна праяўляецца ў тэкстах, якія выкарыстоўваюць элементы фантастыкі, містыкі, хорару. Выразны прыклад — творчасць Л. Рублеўскай, якая актыўна выкарыстоўвае ў прозе формулы масавай літаратуры (дэтэктыў, фантастыка, містычная аповесць, прыгодніцкі раман, чылер і інш.). За аснову пісьменніца заўсёды бярэ «беларускі матэрыял» — гісторыю і літаратурную інтэпрэтацыю міфа-паэтычнай спадчыны.

Гэта выдатна ілюструецца аповесцю «Ночы на Плябанскіх Млынах», якая мае як гістарычную фактуру, так і міфа-паэзію, прычым апошняя мае ключавое значэнне. Тэкст генетычна звязаны з беларускай літаратурай XIX ст., наймацней з «Шляхціцам Завальнем» Я. Баршчэўскага. Аднак ёсць і істотная розніца. Так, фальклорная ментальнасць тэкстаў Я. Баршчэўскага надзвычай аўтэнтычная (яна ў гэтым сэнсе падобная да казак братоў Грым), і праяўляецца жывая прысутнасць міфа-паэзіі, калі герой знаходзіцца «ўнутры сістэмы». У Л. Рублеўскай мы маем справу збольшага з наследаваннем, перайманнем, засваеннем. У гэтым сэнсе сімвалічным індыкатарам з'яўляюцца вобразы герояў. У аповесці Л. Рублеўскай Андрэй Беларэцкі — прафесійны фалькларыст, г. зн. чалавек, для якога вусная народная творчасць — разумовая дзейнасць, навука, прадмет вывучэння. Пан Завальня ў Я. Баршчэўскага — асоба, непасрэдна ўлучаная ў жывую народную стыхію.

Зазначым, што формула містычнай аповесці заснавана на актыўным выкарыстанні паэтыкі змрочнасці, якая настолькі падкрэслена вонкава, што знаходзіцца на мяжы экзальтацыі. У містычнай аповесці «Ночы на Плябанскіх Млынах» гэта падкрэслена на самым пачатку твора пры дапамозе адразу трох сродкаў: 1) эпіграфа, які лаканічна і выразна стварае прадчуванне вусцішнага: «…на дарозе, па якой возяць мёртвых, нават трава і дрэвы мяняюць колер»; 2) апісання хранатопу, у якім дакладна акрэслена ўзаемасувязь вар'яцкага месца і вар'яцкага часу; 3) вобраза свечкі, якая дагарае. Гэтым дасягаецца эфект чакання нядобрага, змрочнага, жахлівага.

Далей пісьменніца паглыбляе адчуванне чытацкай трывогі, крок за крокам малюючы змрочныя дэкарацыі той прасторы, у якой будзе развівацца дзеянне аповесці. Гэта старасвецкі дом былога дырэктара рэальнага вучылішча, акружаны вадой з прычыны паводкі. Дом, натуральна, неўзабаве будзе экспрапрыяваны на карысць рабочага люду (таму святло ў ім забяспечваюць пахавальныя свечкі з разрабаванай царквы). Пры гэтым перыяд рэпрэсій 1920 — 1930-х гадоў сімвалічна ацэньваецца пісьменніцай як найвялікшая трагедыя ў гісторыі Беларусі, як канец самой гісторыі. Таму пры апісанні дома з'яўляецца біблейская алюзія на Сусветны патоп: « — Наш каўчэг яшчэ не даплыў да Арарату! — з мансарды спускаўся чарнявы хлопец, трымаючы ў руках стос старых газетаў».

Стварыўшы атмасферу вусцішы, змроку праз намёк, вобраз, апісанне прасторы, выкарыстанне сімвалаў, алюзій, Л. Рублеўская далей паглыбляецца ў паэтыку містычнай аповесці, тыповым элементам якой з'яўляецца непасрэдна містычная гісторыя: « — Чым страшнейшы час — тым прыемней слухаць выдуманыя жахі… Нібыта цемра ў параўнанні з яшчэ большай цемрай на хвілю падаецца святлом».

**« Тэкст генетычна звязаны з беларускай літаратурай XIX ст., наймацней з «Шляхціцам Завальнем» Я. Баршчэўскага. Аднак ёсць і істотная розніца. Так, фальклорная ментальнасць тэкстаў Я. Баршчэўскага надзвычай аўтэнтычная (яна ў гэтым сэнсе падобная да казак братоў Грым), і праяўляецца жывая прысутнасць міфа-паэзіі, калі герой знаходзіцца «ўнутры сістэмы». У Л. Рублеўскай мы маем справу збольшага з наследаваннем, перайманнем, засваеннем.**

Наступны неабходны складнік містычнай аповесці — непасрэдна апавяданне незвычайнай таямнічай гісторыі. Іх у аповесці цэлая нізка, і кожная з іх — маленькі ключык, з дапамогай якога адкрываецца толькі адна з граняў вялікай беларускай Атлантыды: «Міфы, паданні, легенды — гэта паветра, якім дыхае кожнае места. <…> Гэта ўсюдыісна і невынішчальна».

«Гісторыя пра старую аптэку» — гісторыя пра каханне, жыццё, смерць. Яна стварае не толькі атмасферу быцця беларускага мястэчка XVIII ст., але і ўражанне, што Беларусь — гэта краіна чараўнікоў. Легенда пра старую аптэку падштурхоўвае задумацца і над філасофскім пытаннем пра мэтазгоднасць вечнага жыцця: ці патрэбна яно чалавеку? Пры якіх умовах вечнае жыццё становіцца вязніцай для чалавечай душы?

«Гісторыя пра Плябанскія Млыны» не проста чарговая магістральная легенда, якая апавядае пра чарадзейную сілу закапаных камянёў, што ахоўваюць горад ад ліха. Гэта найперш аповед пра мужнасць нашага народа, гатовага да канца бараніць сваю зямлю. Мае ён і ўласную філасофскую аздобу, бо тлумачыць прагу чалавека да цудаў, калі «без веры ў цуд душа сляпая, нібы начны матыль».

«Гісторыя пра Менскую ратушу» ўяўляе сабой легендарны аповед, у якім ёсць перадгісторыя пра нешчаслівае каханне, смелы і блазнаваты герой, які парушае нормы грамадства XVIII ст., дзяўчына-прывід і, канечне, смерць. Навідавоку ўсе дэкарацыі для займальнай і таямнічай легенды. Аднак не адным гэтым вылучаецца апавяданне пра Менскую ратушу. Галоўная яго асаблівасць заключаецца ў тым, што яно мае рэпрэзентатыўную функцыю: тут гісторыя старажытнай Беларусі падаецца як унікальная з'ява. Так, на самым пачатку легенды ўвагу чытача адмыслова звяртаюць на тое, што падзеі адбываюцца ў XVIII — авантурным — стагоддзі: «А здарылася гісторыя <…> у авантурным 18 стагоддзі, як яго вычварна мянуюць, «век плашча ды кінжала»… У беларускім звычаі была шляхецкая шабля. Або шастапёр — булава, якой раструшчвалі на двубоях косткі. Страшнейшая, чым меч, зброя. Бо згодна традыцыі, пакуль не паказвалася дастаткова крыві — гэта значыць, каб Нямігай лілося, — двубой не перапынялі. А ад удару булавы крыві мала. Вось і ўзнікала, так бы мовіць, пакаленне прабітых чарапоў». Далей пісьменніца падкрэслівае адрознасць беларускай гісторыі ад рускай праз увядзенне цікавых і малавядомых фактаў.

«Гісторыя пра Лошыцкі прывід» з'яўляецца класічнай легендай пра няроўнае каханне. У ім жа хаваецца больш глыбіннае разважанне пра суадносіны кахання і любові. Каханне — этымалагічна больш старажытнае слова, у ім ёсць нешта паганскае, пракаветнае, інстынктыўнае. А любоў — пазнейшае, хрысціянскае, звязанае з павагай і духоўнай еднасцю людзей. Чаму аддаць перавагу? Што выбраць? Кожны з герояў адказвае на гэтае пытанне па-рознаму. Так твор падштурхоўвае да роздуму над адной з цікавостак чалавечага быцця, а таксама дэманструе розныя полюсы рэцэпцыі рэчаіснасці — аналітычны і рамантычны.

Кожная з адзначаных гісторый прадстаўляе сістэму поглядаў, якая цесна звязана з рэальнасцю. Іншымі словамі, праз міф (легенду, гісторыю) рэалізуецца сучаснасць. Твор, нягледзячы на багацце гістарызмаў, захоўвае актуальнасць.

Ёсць у аповесці «Ночы на Плябанскіх Млынах» і гісторыі з прысмакам містычнага. Гэта «Гісторыя пра начны спектакль у Менскім тэатры» і «Гісторыя пра залатагорскую нявесту», якія хоць і наганяюць страх адмысловымі вобразамі і сюжэтамі, таямнічасцю і недасказанасцю, заканчваюцца абсалютна рацыянальным вытлумачэннем.

Формула містычнай аповесці, заснаваная на выкарыстанні паэтыкі змроку, у Л. Рублеўскай, натуральна, не з'яўляецца аўтэнтычнай, і творы яе можна аднесці да неамістыкі. Эстэтыка змроку ў аповесці пісьменніцы існуе не для таго, каб выявіць саму сябе, а каб адлюстраваць змрочнасць рэпрэсій 1920 — 1930-х гг., іх катастрафічны ўплыў на далейшую гісторыю Беларусі. Усе містычныя/напаўмістычныя гісторыі быццам бы рыхтуюць чытача да галоўнага, самага вусцішнага фіналу. І ён, абсалютна рэальны, многа страшнейшы за містыку. Вызваліўшыся з палаючага дома, героі тэксту гінуць у іншым полымі — полымі рэпрэсій, што напаткалі беларускую эліту.

Асобна варта сказаць, што ўвага да містычнага ў творчасці Л. Рублеўскай з'яўляецца натуральнай часткай светапогляднай сістэмы пісьменніцы, для якой характэрны рамантызм з яго культам ірацыянальнага, падкрэсліваннем фантастычнага і містычнага аспектаў быцця.

З іншага боку, міфы і легенды, распаведзеныя ў аповесці, ствараюць адчуванне і легендарнага, і рэальнага адначасова. І «Гісторыя пра старую аптэку», і «Гісторыя пра Плябанскія Млыны» існуюць на своеасаблівым памежжы. Героі самі не раз вядуць спрэчкі пра тое, ці было апавяданае насамрэч. Так, Дарота прыносіць срэбны куфэрачак, які яе бацька знайшоў, будуючы дом, як доказ існавання містычнага чырвонага карбункула. Для Зосі гэта становіцца сведчаннем рэальнасці легенды, а для Беларэцкага — пунктам пабудовы лагічнай мадэлі: нібыта старажытны куфэрачак выкарыстаны дырэктарам вучылішча для таго, каб цікава прэзентаваць гісторыю радзімы. І вызначэнне ісціны тут не стае неабходным. Ёсць памежжа, у якім прысутнічаюць і магія, і рэальнасць. І менавіта ў прасторы гэтага памежжа існуюць «Ночы на Плябанскіх Млынах». Так выяўляе сябе ў беларускай літаратуры магічны рэалізм, які вырастае з гісторыі і фальклору.

Чым яшчэ адметная аповесць Л. Рублеўскай «Ночы на Плябанскіх Млынах»? Як для містычнай літаратуры ў ёй зашмат нацыянальнай адраджэнскай тэматыкі, прычым, выяўляецца яна ў рэчышчы нацыянальнай традыцыі, закладзенай М. Гарэцкім. Гэта невясёлыя філасофскія развагі беларускага адраджэнца, які выдатна разумее сутнасць і прычыны сітуацыі, гэта інтэлігенцкія спрэчкі пра рэвалюцыю, у якіх сутыкаюцца рэальнасць і ілюзія (Ной: « — Проста кожная добрая ідэя, нібы карабель — ракавінамі, абрастае дурнямі, якія ўсё псуюць. — Вось гэтыя дурні і выстаўляюць нас на вуліцу… А мяне яшчэ і расстраляюць, як сына арыстакрата… — дадаў Улад»).

**« Эстэтыка змроку ў аповесці пісьменніцы існуе не для таго, каб выявіць саму сябе, а каб адлюстраваць змрочнасць рэпрэсій 1920 — 1930-х гг., іх катастрафічны ўплыў на далейшую гісторыю Беларусі. Усе містычныя/напаўмістычныя гісторыі быццам бы рыхтуюць чытача да галоўнага, самага вусцішнага фіналу.**

Выразна гучыць у аповесці і філасофская спрэчка пра сцвярджэнне самабытнасці і пагрозу ўніверсальнасці: «Чалавека робіць адрозным ад жывёлы не тое, што неабходна, а тое, што залішняе…»; «Старыя майстры лічылі, што ў аснове прыгажосці — звілістая лінія… Любы просты шлях — няпраўда і штучнасць».

Аповесць «Ночы на Плябанскіх Млынах» — адзін з нямногіх тэкстаў беларускай літаратуры, у якіх жанравая формула масавай літаратуры — містычнай аповесці — настолькі паслядоўна, на ўсіх узроўнях, служыць выяўленню ідэйнай задумы.

**Алена МІКУС**

# Пра сутнасць паэзіі

Пісаць пра паэзію Алеся Разанава ў навуковым фармаце — справа даволі няўдзячная. Вядома, можна прысвяціць даследаванне наватворам, адмысловаму сінтаксісу, супастаўленню твораў адной тэматыкі, але, паводле Івана Штэйнера, так непазбежна «трапіш у класічную сітуацыю са старажытнай індыйскай прыпавесці, калі сляпыя імкнуліся спазнаць, што ж такое слон. Той, хто ўзяўся за хвост, лічыў слана вяроўкай, за вуха — апахалам, за нагу — вежай, за бівень — вострым кап'ём».




У беларускім літаратуразнаўстве вынікі «сустрэчы са сланом» часта атрымліваюцца менавіта такімі. Магілёўскі даследчык абірае іншы шлях: з першых старонак выяўляе выключную адмысловасць творчасці А. Разанава і абвяшчае, што «новае ва ўсім, у тым ліку і ў паэзіі, вымагае выразна новых крытэрыяў».

Кніга больш нагадвае літаратуразнаўчы нарыс, чым навуковую манаграфію, бо мэта аўтара — не толькі прааналізаваць тэксты, але і адчуць праз іх «іншую сапраўднасць», выявіць «адметную філасофію».

«Уводзіны ў невымоўнае» — выдатная магчымасць прыгадаць вершы А. Разанава разам з праніклівым і дасведчаным сучытальнікам: параўнаць уражанне ад паэтычных радкоў, знайсці сугучныя вобразы і думкі. Творы А. Разанава немагчыма чытаць хутка, яны вымагаюць абавязковых паўз на разважанне, і каментары даследчыка ствараюць неабходны тэмпарытм. У невялікім уступе І. Штэйнер сцвярджае, па-першае, немагчымасць выключна рацыянальнага спасціжэння паэзіі А. Разанава і, па-другое, недастатковасць валодання методыкамі даследавання і тэарэтычнымі ведамі: «Папярэдняе веданне ў гэтым выпадку не дадае зроку». Тактоўнасць і памяркоўнасць аўтара дапамагаюць чытачу пачувацца свабодна і робяць дапушчальнай, пажаданай альтэрнатыўную інтэрпрэтацыю тэкстаў: чытач можа па-свойму чытаць нейкія радкі і сам вылучаць у іх галоўнае. Зрэшты, праз многія цытаты з нарысаў і эсэ А. Разанава даследчык дае магчымасць герою сваёй кнігі патлумачыць уласную творчасць.

Калі казаць аб практычнай значнасці, то «Уводзіны ў невымоўнае» — выдатная магчымасць разабрацца ў жанравай сістэме паэзіі А. Разанава і, зрэшты, вызначыць, чым адрозніваюцца між сабой пункціры, зномы і вершаказы. Раздзелы кнігі прысвечаны асобным жанрам у творчасці вядомага паэта, аднак адметныя рысы жанраў часам губляюцца ў плыні развагі, супастаўленняў і пошуку сэнсу, таму патрэбныя месцы варта адзначаць і перачытваць. Кожны раздзел мае сваю структуру і логіку выкладання. Калі размова датычыць паэм і версэтаў, даследчык разглядае эвалюцыю жанраў паэмы і балады, у раздзеле, прысвечаным вершаказам, звяртаецца да асобных фактаў з гісторыі літаратуры, у расповедзе пра квантэмы і злёсы разважае пра сутнасць паэзіі, моц і сілу слова. Увогуле ж, адметнасць жанравай сістэмы творчасці А. Разанава, паводле І. Штэйнера, «трэба шукаць у выключнай арыгінальнасці мыслення аўтара, а не ў творчым развіцці ўжо існуючых формаў для адліўкі мастацкага вопыта».

Даследчык разглядае вершы на ўзроўні вобразаў, ідэй, канцэптаў, тэм — ад розных іпастасей дарогі ў версэтах да адмысловага выяўлення тэмы кахання. Важна, што творчасць А. Разанава выяўляецца ў вельмі шырокім літаратурным кантэксце. Беларускі кантэкст з'яўляецца найбольш актуальным, калі І. Штэйнер вядзе размову пра «Кнігу ўзнаўленняў», у якой паэт перастварае старажытны кніжны эпас. Гэта выданне, відавочна, мае быць настольнай кнігай для беларускіх філолагаў: раз-пораз яе варта гартаць, каб натхніцца да вывучэння ці перачытвання твораў К. Тураўскага і Ф. Скарыны, каб умацавацца ва ўсведамленні значнасці літаратурнай спадчыны. Ад уводнага і да заключнага раздзела І. Штэйнер на розных узроўнях вылучае нацыянальныя асаблівасці паэзіі А. Разанава і прыходзіць да высновы пра «ўласную дыялектыку ўзаемадзеяння нацыянальнага і агульначалавечага», уласцівую светавыяўленню гэтага аўтара. Да таго ж, «Уводзіны ў невымоўнае» прысвечаны шматлікім праблемам ды асаблівасцям сучаснага літаратурнага працэсу. Так, даследчык адзначае аднастайнасць традыцыйнай беларускай паэзіі і падтрымлівае творчы эксперымент, пошук новага «ў сферы ідэй і формаў».

Зразумела, творчасць большасці сучасных паэтаў расце не толькі са здабыткаў беларускіх пісьменнікаў, але і з сусветнай, еўрапейскай літаратуры. Таму побач з радкамі А. Разанава згадваюцца не толькі прозвішчы беларускіх аўтараў, не толькі цытаты з Бібліі, але і імёны А. Рэмбо, Ф. Ніцшэ, Г. Апалінэра і многіх іншых, ад Г. Гейнэ да У. Голдынга. Калі І. Штэйнер суадносіць паэзію А. Разанава з «праклятымі паэтамі» альбо з «Сярэбраным векам» рускай літаратуры, то ён не толькі супастаўляе падобныя літаратурныя сітуацыі, але і параўноўвае раку з яе вытокам. У шыкоўным пераліку творцаў крыху бракуе прадстаўнічых сучаснікаў А. Разанава з іншых краін (хаця асобныя імёны, натуральна, згадваюцца). Такі падыход мае свае падставы: новае тлумачыцца праз вядомае, а П. Верлен і А. Рэмбо — персаналіі, больш вядомыя беларускаму чытачу, чым сучасныя еўрапейскія паэты. Хочацца спадзявацца, што з цягам часу даследчыкі праз творчасць А. Разанава як праз ужо вядомае пазнаёмяць нас з замежнай літаратурай XXI стагоддзя.

Творчасць пісьменнікаў-аватараў рэдка робіцца прадметам даследавання для літаратуразнаўцаў узроўню І. Штэйнера, і варта адзначыць, што ва «Уводзінах у невымоўнае» магілёўскі прафесар — на вышыні. Кніга легітымізуе правы творцы не прытрымлівацца «класічнага вектара эвалюцыі традыцыйнага паэта», і да яе можна апеляваць, каб у навуковым дыскурсе весці размову пра многіх вартых беларускіх аўтараў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**




# Кот-мараход ды іншы «народ»

Каты, безумоўна, бываюць розныя: звычайныя і пародзістыя, з медалямі, атрыманымі на выстаўках, і без, і мянушкі ў іх гэтаксама бываюць розныя — адным гаспадарам падабаюцца традыцыйныя імёны, скажам, Мурзік ці які-небудзь Пушок, а то і як здаўна заведзена — Вася, у той час як іншыя шукаюць арыгінальнасці. Ды ката-марахода, пэўна, ні ў кога няма. Хіба толькі ў паэта, лаўрэата некалькіх літаратурных прэмій, у тым ліку «Залатога Купідона», Уладзіміра Мазго.

Праўда, жыве гэты кот не ў ягонай кватэры і навят не на лецішчы, а «прапісаўся» на старонках казкі-паэмы «Прыгоды марахода». Мараходам жа ён стаў пасля таго, як паплаваў па моры. Што ён там бачыў, у якія незвычайныя сітуацыі трапляў — распавядае У. Мазго ў гэтым займальным, на дзіва дасціпным творы, што ўвайшоў у кнігу «Завітала ў госці казка», выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Кніга лішні раз пацвярджае, што аўтар высока трымае планку мастацкасці.

Тое, што піша У. Мазго сёння, — гэта працяг усяго лепшага, што ўжо зроблена. Ён даўно заявіў пра сябе як дзіцячы пісьменнік, які, цудоўна ведаючы псіхалогію сваіх чытачоў, добра ведае, як трэба пісаць для іх, як прымусіць (па-добраму, зразумела) палюбіць персанажа. Не палюбіць жа ката-марахода проста немагчыма. Ён і падобны, і не падобны да сваіх суродзічаў: нікога і нічога не баіцца. У. Мазго, праўда, дакладна не гаворыць, як кот Вася (так звалі яго напачатку) адважыўся на небяспечнае марское падарожжа. У «Пралогу» да казкі-паэмы пісьменнік ставіць чытача перад фактам: «Плыў па моры // Кот Васіль, // Плыў бясконца // Сотні міль. // І нідзе // Не сеў на мель // У тумане // Карабель. // Бо здавён // Быў гэты кот — // Лепшы ў свеце // Мараход».

Думаецца, і сапраўды ўдакладненні наконт гэтага «здавён» — лішнія. Больш за тое, дзеткі, пазнаёміўшыся з героем казкі-паэмы «Прыгоды марахода», самі пастараюцца знайсці адказ на пытанне: што падштурхнула яго здзейсніць учынак, на які ніхто з катоў раней не наважваўся? Гэта вельмі істотны момант у казцы.

Чатырохногі персанаж з'яўляецца героем твора ўва ўсіх сэнсах. У складаных сітуацыях ён паводзіць сябе годна і мужна, не палохаючыся, прымае смелыя рашэнні. Для прыкладу, у адным з раздзелаў кот-мараход сустракаецца з піратамі, «ды зусім // Не разгубіўся, // Бо заўсёды // Васька-кот // Быў аматарам // Прыгод». Мараход налёг на вёслы і пратараніў пірацкае судна: «І піраты // Заадно // З караблём // Пайшлі на дно…»

Зрэшты, кот-мараход — добразычлівы персанаж, таму, напаткаўшы ля вострава Мадагаскар кіта, не толькі не спалохаўся акіянскага велікана, а і пасябраваў з ім («Кот і кіт»). Да ўсяго, чатырохногі падарожнік кемны, можа знайсці выйсце з любой сітуацыі. Завітаўшы на востраў Новая Гвінея («Папуаская рыбалка»), ён сабраўся паспаборнічаць з папуасамі ў рыбацкай справе. Кот «з дубца зрабіў вудзільна», але вось, калі на кручок патрапіла «важкая рыбіна з лімана», зламалася. Ды мараход не разгубіўся:

*Каб пазбегнуць паражэння,*
*Нечаканае рашэнне*
*Тут прымае наш герой:*
*Уздымае хвост трубой,*
*Вяжа лёску да хваста,*
*Покуль клёў не перастаў.*

Толькі нездарма гавораць: не кажы гоп, пакуль не пераскочыў: «Раптам клюнула акула — // За сабою пацягнула, // Ледзьве хвост не адарваўся». На шчасце, усё скончылася добра: «Пераможцам выйшаў Вася!.. // Бо Васіль не просты кот — // Рыбалоў і мараход».

Прыгоды ката не толькі цікавыя, але й пазнавальныя, бо пашыраюць кругагляд «чамучак» (раздзелы «Пінгвіны без ангіны», «Клічуць цуды на Бермуды» і асабліва «У нябесным акіяне», дзе кот пабываў на Марсе і адкрыў для сябе Млечны Шлях).

**«Хацелася б, каб на новую кнігу У. Мазго звярнулі ўвагу выхавацелі дзіцячых садоў і настаўнікі малодшых класаў. Творы, змешчаныя ў ёй, з поспехам можна выкарыстаць у правядзенні ранішнікаў і г. д. Асобныя ж з іх, найперш казку-паэму «Прыгоды марахода», можна і інсцэніраваць.**

Чытаеш і ловіш сябе на думцы: як цудоўна, што ў сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры ёсць такія пісьменнікі, як У. Мазго. Ім няма неабходнасці выдумляць нешта звышфантастычнае, арыгінальнае, неверагоднае, бо яны здольныя глядзець на свет вачыма дзіцяці, яны ўмеюць вяртацца ў маленства. І разам з тым — разумець сучасных дзяцей, чыё маленства вельмі адрозніваецца.

Кот-мараход, безумоўна, — не адзіны герой кнігі «Завітала ў госці казка». Ёсць у ёй і іншы казачны «народ» — прадстаўнікі фаўны, пра якіх дзеці добра ведаюць. Але У. Мазго не паўтараецца. Кожны раз ён ставіць добра знаёмых персанажаў у незвычайныя сітуацыі. Напрыклад, казка «Пеўнік-спеўнік». Пачатак твора традыцыйны для гэтага жанру: «Жыў на свеце пеўнік…// Ранкам сонейка будзіў, // За сабой // Курэй вадзіў». Але у казцы дабру абавязкова павінна супрацьстаяць зло. Увасабленнем яго становіцца сабака, імя якога гаворыць само за сябе — Пустабрэх. Кінуў ён пеўніка ў мех і панёс ваўку, які чакаў яго за хлявом. Не бачыць бы Пецю свету Божага, каб куры не ўзнялі перапалох. Сюжэт просты, аднак выйгрышны, бо дазволіў У. Мазго «ўплесці» дыдактычны момант. Калі пеўнік-спеўнік уратаваўся, ён, як звычайна, раніцой разбудзіў сонейка:

*Так пявун —*
*Спявак хадзячы —*
*За дабро*
*Дабром аддзячыў.*

З твораў У. Мазго дзеткі даведаюцца, чаму сарокі носяць навіны на хвасце («Урок для сарок»), чаму кошкі не любяць мышэй («Жмуркі кошкі Муркі»), а таксама пра тое, як у зубра з'явіліся рогі («Адзінец»).

Кніга нездарма мае падзагаловак «Казкі зблізку і здалёку». Апроч твораў самога У. Мазго ў яе ўвайшлі перакладзеныя ім казкі народаў Аўстраліі і два творы Ханса Крысціяна Андэрсена — «Свінапас» і «Брыдкае качаня».

Хацелася б, каб на новую кнігу У. Мазго звярнулі ўвагу выхавацелі дзіцячых садоў і настаўнікі малодшых класаў. Творы, змешчаныя ў ёй, з поспехам можна выкарыстаць у правядзенні ранішнікаў і г. д. Асобныя ж з іх, найперш казку-паэму «Прыгоды марахода», можна і інсцэніраваць. Дый ня лішне на такое мерапрыемства запрасіць самога аўтара: Уладзімір Мінавіч ахвотна наведвае і дзіцячыя сады, і школы. Падчас такіх сустрэч ягоныя кнігі заўсёды запатрабаваныя.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Аблічча*

# Васіль Быкаў:

# «На радзіме і дождж сушэйшы!»



*Васіль Быкаў каля ўвахода ў Дом-музей Петруся Броўкі.*

16 чэрвеня 1985 года ў Пуцілкавічах на Ушаччыне праходзіла ўрачыстае адкрыццё Дома-музея Петруся Броўкі. Падзея была прымеркавана да 80-годдзя з дня нараджэння народнага паэта, Героя Сацыялістычнай Працы, а таксама да Рэспубліканскага свята паэзіі, прысвечанага 40-годдзю перамогі над фашызмам. Запрасілі гасцей з многіх саюзных рэспублік. А тут задажджыла. І таму выступалі на прыступках перад уваходам у музей…

«У Беларусі — ясныя вочы…» — пісаў Пятрусь Броўка. Калі дождж пацішэў, пачалі аглядаць не толькі -шыкоўныя экспанаты філіяла Літаратурнага музея Петруся Броўкі, але і ўсе абноўленыя каморы сядзібы. Напярэдадні нас чакаў пераход да мемарыяльнага комплексу «Прарыў». Суцяшала прамоўленае Быкавым: «На радзіме і дождж сушэйшы».

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# Вайна як кропка адліку



*Муравейка, І. А.*
*Я — Іван з Беларусі. — Мінск: выдавецкі дом «Звязда», 2014. — 272 с.*

Старэйшына літаратурнага цэха Беларусі, дзіцячы паэт Іван Муравейка, які жыве і працуе ў Любані, паранейшаму ў баявым і творчым страі. Мінула амаль семдзесят гадоў пасля страшных, трагічных падзей Вялікай Айчыннай вайны. А ён, чалавек, які франтавым сцежкам пачаў адлік з Вязьмы, Смаленска, жывы і радуе чытача сваімі новымі творамі. Няма, відаць, вышэйшага шчасця, як пражыць такое напоўненае, насычанае, багатае на творчыя здабыткі жыццё. Новая кніга Івана Андрэевіча Муравейкі — ёмісты том «Я — Іван з Беларусі», складзены з апавяданняў, нарысаў, успамінаў, паэм, балад, вершаў. Многія радкі напісаны яшчэ ў гады ваеннага ліхалецця. Як сведчанне — і подпісы пад паэтычнымі і празаічнымі тэкстамі: 1943, 1944, 1945…

Тут варта, відаць, нагадаць і такі радок з ваеннай біяграфіі Івана Муравейкі: у 1944 годзе камандзіра ўзвода, даваеннага студэнта Камуністычнага інстытута журналістыкі ў Мінску, пачынаючага паэта прызначаюць карэспандэнтам газеты «Красный воин» 47-й гвардзейскай стралковай дывізіі. А ў лістападзе таго ж года Іван Муравейка становіцца журналістам газеты «Наступление» 74-й гвардзейскай стралковай дывізіі, затым трапляе на службу журналістам штодзённай газеты 8-й гвардзейскай арміі. У Берліне наш зямляк пакінуў на рэйхстагу свой надпіс: «Я — Іван з Беларусі».

Многія творы, сабраныя ў кнігу, — своеасаблівы каментарый да публікацый ваеннага часу. А тады, у ваенным ліхалецці, Іван Муравейка пісаў вершы, нарысы, карэспандэнцыі, ствараў салдацкі гумар, рабіў усё, што выяўляла здольнасці, магчымасці мастацкага слова ў палымянай барацьбе з фашысцкім супастатам. Сёння гэтыя тэксты ўспрымаюцца як літаратурныя дакументы свайго гераічнага і трагічнага часу, чым кніга асабліва і цікавая.

Следам за аўтарам мы гартаем падшыўку салдацкай шматтыражкі: «…У мяне захаваліся падшыўкі нашай дывізійнай газеты «Наступление» за апошнія паўгода вайны. Вось першы нумар ад 1 студзеня 1945 года. Да Перамогі заставалася чатыры месяцы. Першая старонка — віншавальны лозунг: «С победным Новым годом, товарищи!» Да Перамогі заставалася чатыры месяцы. Перадавы артыкул абвяшчае: «Близится окончательный разгром фашистской Германии. Красная Армия по приказу Верховного Главнокомандующего несёт своё победное знамя к Берлину!»

Другая старонка газеты адкрываецца маім артыкулам «Все дороги ведут на Берлин».

Прыжмурыў вочы і ўбачыў камандзіра стралковай роты, гвардыі старшага лейтэнанта Васіля Сядова…»

І далей: «Чацвёртая старонка газеты — сатырычна-гумарыстычная пад рубрыкай «Поздравляем вас, подлецы-гитлеровцы, с последним годом вашего существования!»

Было ад чаго пасмяяцца, павесяліцца. У дасціпных карыкатурах «Новогодняя осина» і «Мы найдём эту рожу» ўсе пазналі Гітлера і яго кампаньёнаў. «Віншавальныя» тэлеграмы гітлераўскім верхаводам паслалі праз газету чырвонаармеец І. Каралёў, разведчык Т. Марын, майстар штыкавога бою Хайрулін і інш. У адной з тэлеграм гаворыцца:

«Грабежніку Герынгу. Для папаўнення калекцыі нарабаванага табой дабра пасылаю ў тэрміновым парадку свой фугасны снарад. Артылерыст Канавалаў».

Старонку падрыхтаваў асабіста я. Асабліва карпатліва давялося выразаць на ліналеуме карыкатуры. Нялёгка дамагчыся таго, каб персанажы былі падобнымі на арыгіналы».

Чытаючы кнігу, знаёмішся з воінамі розных нацыянальнасцей. Расказваючы пра іх ваенныя подзвігі, Іван Муравейка акрэслена выяўляе пазіцыю пісьменніка-інтэрнацыяналіста. З цікавасцю чытаюцца старонкі пра калег нашага земляка па працы, службе ў ваеннай журналістыцы. Згадаем хаця б некаторыя імёны: маёр Міхаіл Шыбаліс, капітан Павел Шабунін… Усе яны адбыліся пасля вайны як вядомыя журналісты, творцы. А тады, у 1940-я, былі для Івана Муравейкі добрымі сябрамі, пабрацімамі, настаўнікамі і паплечнікамі.

Кніга Івана Муравейкі, на мой погляд, павінна прыйсці ў школу, варта параіць юнаму чытачу сустрэць з ёю і 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і — на будучы год — 70-годдзе Вялікай Перамогі. Хацелася б, каб пра новы плён творчай працы беларускага літаратара ведалі і ў Расіі, бо многія старонкі зборніка «Я — Іван з Беларусі» расказваюць пра яго баявых пабрацімаў з розных куткоў далёкай і блізкай краіны-суседкі.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Пушкінскія чытанні

Сёлета традыцыйныя Пушкінскія літаратурныя чытанні ў Магілёве былі прысвечаны 215-годдзю з дня нараджэння вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна. 6 чэрвеня ў абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна адбылася прэзентацыя кнігі «Любезен нам» з творамі членаў літаратурнага аб'яднання «Ветэран». Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі разам з магілёўскім гарадскім аддзяленнем Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Рускае таварыства» падвялі вынікі міжнароднага літаратурнага конкурсу, у якім бралі ўдзел паэты і празаікі з Беларусі і Расіі.

7 чэрвеня адбылося ўручэнне ўзнагарод пераможцам літаратурнага спаборніцтва ў аграгарадку Цялуша Бабруйскага раёна. Тут у дарэвалюцыйны час жыла ўнучка Аляксандра Пушкіна Наталля Аляксандраўна Даранцова-Вельямінава. Старшыня журы, кіраўнік Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Дуктаў уручыў пераможцам узнагароды — дыпломы і кнігі ад Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі. У ліку пераможцаў — і члены Саюза пісьменнікаў Расіі Вера Суханава ды Анастасія Самафралійская са Смаленска, якія разам з магілёўскімі літаратарамі завіталі ў Цялушу. Творчая дэлегацыя ўсклала кветкі да магілы Наталлі Аляксандраўны Варанцовай-Вельямінавай, наведала Бабруйскую гарадскую бібліятэку імя А. С. Пушкіна, сустрэлася з яе супрацоўнікамі і чытачамі.

**Уладзімір САСНОЎКІН**



# Яго зброя

6 чэрвеня на 93-м годзе жыцця пайшоў з нашых шэрагаў генерал-лейтэнант у адстаўцы Юрый Іваноў, цудоўны чалавек, журналіст і пісьменнік.

Юрый Іваноў нарадзіўся 3 лютага 1922 года ў горадзе Вялікі Усцюг Валагодскай вобласці. У гады Вялікай Айчыннай вайны скончыў Пушкінскае танкавае вучылішча і з 1942 года знаходзіўся ў арміі. Падчас баявых дзеянняў быў тройчы паранены.

Пасля вайны працягваў службу ў танкавых войсках. Скончыў Ваенную акадэмію бронетанкавых войскаў і прызначаны камандзірам батальёна. Пасля шэрагу прызначэнняў у 1967 годзе палкоўнік Іваноў стаў камандзірам 28-й танкавай Александрыйскай Чырванасцяжнай ордэна Кутузава дывізіі 28-й агульнавайсковай арміі Беларускай ваеннай акругі.

У 1974 годзе скончыў курсы пры Ленінградскім Ваенным інстытуце замежных моў і накіраваны ваенным саветнікам камандуючага Цэнтральнай арміі Рэвалюцыйных Узброеных Сіл Рэспублікі Куба. Знаходзячыся на востраве Свабоды, ён і там займаўся літаратурнай дзейнасцю і быў прыняты ў Саюз журналістаў Кубы. Узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі. У 1983 годзе генерал-лейтэнант Іваноў быў звольнены з ваеннай службы ў адстаўку.

Ён пісаў успаміны пра баі танкістаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны і шматлікія артыкулы, стаў аўтарам кніг «Баявы летапіс беларускіх палкоў», «Маёй зброяй быў Т-34» і інш. Лаўрэат прэміі «Залатое пяро». У 2002 годзе стаў заслужаным журналістам Беларускага саюза журналістаў, у 2003 годзе — сапраўдным членам міжнароднай Акадэміі арганізацыйных і кіраўнічых навук, членам Міжнароднага саюза баталістаў, марыністаў.

Юрый Сцяпанавіч увесь час падтрымліваў сувязь з малой радзімай, дасылаў свае творы, а ў водпуску праводзіў сустрэчы з землякамі.

Мы шчыра спачуваем родным і блізкім у сувязі з іх непапраўнай стратай.

**Члены ваенна-навуковага таварыства пры Цэнтральным Доме афіцэраў**

*Паралелі*

# Задыхнуцца ад… натхнення

Ці можна параўнаць працэс афармлення кнігі з працай па стварэнні вокладкі для музычнага альбома? Чаму ілюстрацыі з модных часопісаў здольныя старэць? Як пазначыць аўтарства работы, не падпісваючы яе? На гэтыя ды многія іншыя пытанні карэспандэнта «ЛіМа» адказвае карэянка Хаджын Бэ, мастачка, ілюстратар, графічны дызайнер і мастацкі рэдактар некалькіх карэйскіх і японскіх модных часопісаў.



*Аўтапартрэт, 2013 г.*

**— Сваім суразмоўцам-мастакам я часта задаю пытанне пра выбар прафесіі і сферы дзейнасці. Якім чынам гэта адбылося ў вас?**

— Я малявала з самага юнага ўзросту. Як кажуць бацькі, гадоў з 4-5. Гэта быў працэс, які ніколі не спыняўся. Каб стаць мастаком, не можа быць ніякіх асаблівых прычын. Стаць тым, кім я з'яўляюся сёння, было цалкам натуральным выбарам.

**— Ці можна сцвярджаць, што ілюстрацыя для часопіса, газеты — своеасаблівы жанр?**

— Так, я лічу, што гэта сапраўды асобны жанр. Стаматолагі, хірургі, псіхіятры — дактары, але кожны з іх працуе ў асобнай галіне. Гэтак жа і з мастакамі, якія працуюць у газетах, часопісах. Канечне, іх можна аб'яднаць у адну групу, але ад кожнага чакаюць розных вынікаў.

**— А чым вылучаецца ілюстрацыя ў галіне моды? Вы працуеце мастацкім рэдактарам менавіта ў модных часопісах.**

— Сутнасць моднага, ці, калі можна так сказаць, ідэальнага, заключаецца ў тым, што гэта нешта «лепшае і новае». Менавіта гэтую адметнасць моды ілюстратар павінен перадаваць чытачам. Мода мае справу з паняццямі «тэндэнцыя» і «пачуццё». Таму нават самая паспяховая ілюстрацыя ў гэтай галіне з часам старэе, бо тэндэнцыі змяняюцца. Да прыкладу, у вас ёсць прыгожая сукенка, якую вы набылі летась, але вельмі хутка вы пойдзеце ў краму, каб набыць новую.

**— Ці здаралася, што малюнак, які вы зрабілі проста па ўласным жаданні, потым стаў выдатнай ілюстрацыяй да нейкага тэксту?**



— Думаю, такое час ад часу здараецца з кожным мастаком. У мяне гэта ўпершыню адбылося ў 2009 годзе ў Токіа, калі я праводзіла сваю першую персанальную выстаўку. Там былі прадстаўленыя мае малюнкі Сеула. Я рабіла іх для сябе. Неверагодна, але падзея стала загалоўнай на сайце *Yahoo Japan*. Думаецца, гледачы палічылі ідэю «прадстаўлення сталіцы карэі (Сеула) ў сталіцы Японіі (Токіа)» вельмі свежай.

**— Ці можа аўтар тэксту, што друкуецца ў часопісе ці газеце, ці рэдактар гэтага выдання ўплываць на працэс малявання ілюстрацыі ды яе канчатковы выгляд?**

— Канечне, і яны гэта робяць. У залежнасці ад меркавання аўтара тэксту я магу рабіць абсалютна розныя малюнкі. Часам у змесце знаходжу вельмі дасціпныя дэталі, што робіць саму працу надзвычай вясёлай, а вынік часам здзіўляе нават мяне саму.

**— Вы працуеце мастацкім рэдактарам. Што ўваходзіць у вашы функцыі?**

— Мастацкі рэдактар — гэта як капітан карабля. Мая задача — скіроўваць. Але я не патрабую, каб дызайнеры ці ілюстратары ў сваёй працы кіраваліся маім мастацкім бачаннем ці стылем. Адзінае патрабаванне — каб мастакі паказвалі найлепшыя вынікі, стараліся. Я проста знаходжу сцежку, каб павесці па ёй астатніх.

**— Колькі вам трэба часу, каб намаляваць ілюстрацыю?**

— Я не лічу свой працоўны час, але сказала б, што для большасці работ трох ці чатырох гадзін цалкам дастаткова. Бывае, працэс можа заняць і цэлы дзень, калі я працую над дробнымі дэталямі. Калі даўжэй — гэта не так весела, а вынік хутчэй расчароўвае. Мне падабаецца працаваць інтэнсіўна, на працягу кароткага часу ўкладваць усю энергію ў працу. Лепш, калі працэс вельмі рытмічны, выбуховы.

**— Як лічыце, натхненне існуе?**

— Натхненне для мяне з'яўляецца сінонімам «прасвятлення». Калі ад нейкай работы ты нібыта задыхаешся — магчыма, таму, што пра нешта даведалася. Увогуле, пра тое, што мяне натхняе, я магу распавядаць шмат. Але тут узнікае новае пытанне: чаму людзі хочуць ведаць пра маё натхненне? Я малюю тое, што люблю. А натхняюць рэчы, якія складаюць важную частку майго жыцця: страсць да музыкі, зацікаўленасць модай, сябры і шчасце.

**— Ці важна для мастака мець уласны стыль?**

— Гэта вельмі складанае пытанне. Любы мастак працаваў бы шмат, каб знайсці ўласны стыль, спосаб адлюстравання рэчаіснасці. Але дзеля чаго? Я не ведаю. Дзеля славы? Поспеху? Усё залежыць ад чалавека, і я не магу адказаць дакладна. Адно ведаю пэўна: калі б я была мастаком з унікальным стылем, якога свет раней не бачыў, то любая работа была б вельмі прыемнай і задавальняла б мяне. Гэта як пакінуць свой подпіс, пры гэтым не падпісваючы работу. Але для кожнага было б відавочна, хто аўтар.

**— Вы любіце чытаць? Хто ў ліку любімых аўтараў?**

— З дзяцінства і амаль да 30 гадоў я чытала шмат. Мне падабалася розная літаратура. Але калі мне споўнілася 30, я чамусьці стала чытаць не так многа. Магчыма, таму, што я глыбока пагружаюся ў аповед, усё перажываю вельмі эмацыянальна. Падаецца, з узростам усё складаней кантраляваць гэты стан. Але ёсць аўтар, якога я з задавальненнем чытаю і сёння. Гэта Харукі Муракамі. Ён самы любімы.

**— Вы працуеце ў галіне кніжнай ілюстрацыі?**

— Гэта мне вельмі цікава, бо я афармляю вокладкі для музычных альбомаў. Я ўжо казала, што мая любоў да музыкі — глыбокая. І мне падаецца, што праца па ілюстраванні кніг вельмі падобная на працэс стварэння вокладкі для дыска. Гаворка ідзе пра мастацкае прадстаўленне творчага зместу. Фармат можа быць розным, але мы ўсё роўна спрабуем распавесці, што пісьменнік ці музыкант імкнуцца сказаць чытачу або слухачу. Калі б мне прапанавалі працаваць з кнігай, то хацелася б, каб гэта была мая гісторыя і мае ілюстрацыі, а не толькі афармленне таго, што ўжо напісана.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**малюнкі Хаджын Бэ**

# Песні ды проза

Напярэдадні вельмі важнага акустычнага канцэрта ў беларускай сталіцы вядомая спявачка, музыкант, лідар гурта «Ночные снайперы» Дзіяна Арбеніна завітала ў кнігарню *oz.by*, каб прадставіць журналістам і прыхільнікам сваю новую кнігу «Спрынтар», што выйшла напрыканцы мінулага года ў выдавецтве «АСТ». Прэс-брыфінг ператварыўся ў сапраўдную сустрэчу фанатаў: па жаданні галоўнай гераіні імпрэзы да прадстаўнікоў СМІ ў зале далучыліся чытачы, якія чакалі аўтограф-сесіі.



— Кніга «Спрынтар» досыць доўга рыхтавалася ў выдавецтве. З аднаго боку, гэта звязана з пытаннямі маруднага менеджменту, а з другога, — мы стараліся, каб за яе не было сорамна. Гэта не прадукт, пастаўлены «на паток», а выданне, у якім аўтар адказвае за кожную старонку, яе колер, месца кожнага твора ў структуры кнігі. Атрымалася так, што вершы і апавяданні, якіх не было першапачаткова ў змесце, дадаваліся па ходзе працы. Час жа ішоў, я пісала. Таму пад адной вокладкай змясціліся і самыя старыя тэксты, і самыя новыя, — распавяла Дзіяна Арбеніна.

Хутка прыхільнікі літаратурнай творчасці Дзіяны Арбенінай дарэчы, ураджэнкі Барысава, змогуць пазнаёміцца і з новай яе кнігай, якая ўжо рыхтуецца да друку ў тым самым выдавецтве. Зборнік «Сталкер» аб'ядвае тэксты песень і ноты да іх. Можна будзе проста ўзяць кнігу, гітару і сыграць. Як падкрэсліла аўтарка, агульнай колькасцю яна напісала прыкладна 200 — 250 песень, магчыма, палова з іх будзе з нотамі.

— Песні я пішу досыць часта. А вершы — вельмі рэдка. Я не кантралюю гэты працэс, няма пэўнай нормы, да прыкладу, 15 вершаў і 25 песень на месяц. Назіраючы за сабой, заўважаю, што песні пішуцца, а вершы — не. Таму падаецца, што на сённяшні дзень я ў першую чаргу музыкант, — падзялілася Дзіяна. — Апавяданні ж пачала пісаць, калі была цяжарная. Як толькі нарадзіла — скончыла, бо цяпер няма часу працаваць над прозай.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**



# Макбет у Мінску

Дырэктар-мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Валерый Анісенка адзначыў 70-гадовы юбілей на сцэне Купалаўскага тэатра ў Мінску. Артысты-коласаўцы прадставілі сталічнаму гледачу трагедыю «Макбет» Уільяма Шэкспіра ў пастаноўцы юбіляра.

Заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Валерый Данілавіч упершыню паставіў п'есу Шэкспіра ў 2013 годзе на XV Міжнародным тэатральным фестывалі «Мельпамена Таўрыі» (Украіна). Спектакль «Рычард» і сумесная беларуска-англійская пастаноўка «Макбет» атрымалі вышэйшую адзнаку на Эдынбургскім фестывалі ў 1995 — 1996 гадах. А сёлета на IV Міжнародным тэатральным фестывалі «Смаленскі каўчэг» (Расія) коласаўскі «Макбет» уразіў міжнароднае журы. Па выніках форуму юбіляр быў адзначаны ў намінацыі «Лепшая рэжысура».

— Я шкадую людзей, якія не любяць тэатр. Бо тэатр — гэта шлях да душы, да сэрца. Гэта ўзрушэнне, адкрыццё, спасціжэнне нейкай таямніцы, судакрананне з ёю. Я мог бы гэта параўнаць з пачуццём да жанчыны. У нас шмат абраных, ды мала прызваных. Людзей, якія цягнуцца да мастацтва. Галоўнае не даўжыня рук, ног, носа, а вымярэнне душы, — упэўнены знакаміты рэжысёр.

З 2000 па 2012 год Валерый Анісенка ўзначальваў Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі. За гэты час стварыў фактычна новы тэатр з арыгінальным і пазнавальным творчым почыркам, выхаваў цудоўную трупу. Валерый Анісенка стварыў больш як 50 спектакляў у Беларусі і ў іншых краінах. Сярод знакамітых пастановак — «Машэка» М. Арахоўскага, беларуска-ізраільскі праект «Толькі дурні сумуюць» Д. Альмагора, франка-беларускі праект «Чарнобыльская малітва» С. Алексіевіч, гістарычная драма «Понцій Пілат» А. Курэйчыка і іншыя. Спектакль «Гамлет» У. Шэкспіра ды інш. Спектаклі Валерыя Анісенкі з поспехам ішлі ў Маскве, Гданьску, Лондане, Растоку, Эдынбургу, Сібіу, Каіры і іншых гарадах свету.

З апошніх работ рэжысёра варта ўзгадаць спектакль «Сонечка» паводле рамана Ф. Дастаеўскага «Злачынства і пакаранне», адзначаны прызам за лепшую рэжысуру на міжнародным фестывалі ў Бранску, спектакль «Чайка» — лаўрэат міжнароднага тэатральнага фестывалю «Белая Вежа». Апошні, дарэчы, быў паказаны на радзіме Антона Паўлавіча Чэхава — у Таганрогу.

Валерый Анісенка вядомы не толькі як тэатральны рэжысёр, але і як пастаноўшчык мастацкіх тэлефільмаў, цудоўны лектар і выкладчык. Ім апублікаваныя тэксты лекцый «Канспект па Шэкспіру» на рускай, іспанскай і англійскай мовах, выдадзеныя кнігі «Споведзь дылетанта», «Нататкі пачаткоўца», а таксама шэраг артыкулаў у рэспубліканскай і замежнай прэсе.

**Таццяна ШЫМУК**

# …І раптам — малюнак!

Гомельская мастачка Святлана Батракова нарадзілася ў 1972 годзе. Вучылася ў 141-й школе, але школьныя гады апісваць не любіць — кажа, сумныя былі. Пасля — вучылішча № 34. Сям'я была супраць жадання Святланы стаць мастачкай. Але імкненне да мары зрабіла сваю справу: у 1990-м дзяўчына паступіла ў маскоўскую Народную акадэмію выяўленчых мастацтваў. Скончыць вучобу не атрымалася па сямейных абставінах, і пачалося самаразвіццё. У 2002 годзе С. Батракова паступіла ў Міжнародны інстытут працоўных і сацыяльных адносін, дзе адбылася яе першая персанальная выстаўка. Раней існавала традыцыя: штогод выстаўляцца там. Але сёлета выстаўка работ мастачкі набыла пастаянны статус.



**— У вашым радаводзе былі мастакі?**

— Ніхто з маіх сваякоў творчасцю не займаўся.

**— Калі вы пачалі маляваць?**

— Гадоў у 10: любімая школьная настаўніца малявання прывіла мне любоў да жывапісу.

**— Што вам асабліва падабалася маляваць у дзяцінстве?**

— Больш за ўсё — коней! Мой першы альбом з малюнкамі быў прысвечаны ім.

**— Як выбралі свой жыццёвы шлях?**

— Спачатку я не думала звязваць сябе з мастацтвам — хацела быць каскадзёрам. Пасля вывучэння анатоміі карцела стаць хірургам, але праз пэўны час зразумела, што баюся крыві. Толькі гадоў у 15 пачала асэнсоўваць, што нічога, акрамя малявання, мяне не вабіць.

**— Якім жанрам аддаяце перавагу?**

—Люблю нацюрморт, пейзаж, анімалістыку, алегарычную і міфалагічную тэматыкі. Пачуваюся ў гэтых жанрах лёгка, нібы ў знаёмым садзе. А вось партрэт не вельмі люблю: лічу, перш чым пісаць чалавека, трэба ўбачыць яго душу, але не ва ўсіх душа адкрытая. Цяжка пісаць незнаёмых людзей: нібы спісваеш абалонку, а сутнасці на палатне няма.

**— У вас ёсць любімая карціна?**



— Шмат. Любімыя работы ёсць у кожнага мастака, і яны не прадаюцца, не дорацца. Гэта карціны з коньмі, што знаходзяцца ў Гомельскім абласным цэнтры алімпійскага рэзерву па конным спорце, некаторыя нацюрморты, міфалагічныя сюжэты.

**— Як вы ставіцеся да сваіх работ?**

— Па-рознаму бывае, часам непрадказальна. Ёсць работы, якія падабаюцца з першага позірку, а ёсць тыя, што прываблівають публіку, а я ў іх не знаходжу нічога асаблівага. Часам нават крыўдна, калі мае любімыя карціны не ўспрымаюцца.

**— У якой манеры вы працуеце? Колькі часу займае стварэнне адной карціны?**

— Звычайна я пішу ў тэхніцы папластовага жывапісу. Але падабаецца і манатыпія, калі фарбы разводзяцца да вадзянога стану, а затым наносяцца на палатно — атрымліваецца прыгожы малюнак з размываў і падцёкаў.

**— Хто з мастакоў для вас найбольш аўтарытэтны ў сэнсе творчага развіцця?**

— У школьныя гады вялікі ўплыў аказалі Рубенс, Леанарда да Вінчы, Рафаэль, пасля — Ван Гог, Гаген, Манэ, Дэга і, вядома ж, рускія перасоўнікі!

**— У чым ваша крыніца натхнення?**

— Натхніць можа ўсё што заўгодна. Для мяне гэта, у першую чаргу, коні, прырода, мора з вірлівымі хвалямі і людзі, якія ўмеюць быць шчаслівымі.

**— Ці малюеце для сябе?**

— Апошнім часам не. Пастаянна пішу тэматычныя работы для выставак — гэта стымулюе кожнага мастака рухацца наперад і змяняцца.

**— Што істотна падчас працы?**

— О, навакольнае вельмі важна! Я не люблю, калі на маю працу глядзяць з-за спіны, пастаянна тузаюць, пытаюцца. Падабаецца пісаць, калі ніхто не перашкаджае. Ты забываеш, хто ты, дзе ты, і наогул пераходзіш у іншае вымярэнне. Нібы мяне і няма, растаю ў паветры. З'яўляецца адчуванне, быццам я сама Сусвет. Так часам раствараешся, што здзіўляешся, хто напісаў карціну, няўжо я? Узнікае пачуццё здзіўлення і захаплення: было пустое палатно ды фарбы — і раптам малюнак!

**— Якія планы маеце?**

— Баюся загадваць, таму што мае планы не спраўджваюцца. Як Бог дасць, так і добра! Я навучылася радавацца таму, што ёсць.

**— Што б вы хацелі пажадаць мастакам-пачаткоўцам?**

— Шчасця, радасці і ва ўсім удачы. Шчаслівыя людзі заўсёды натхняюць. А таксама шмат цярпення — шлях мастака нялёгкі, — працавітасці, зоркага позірку і сталых прыхільнікаў.

**Вераніка ГАМЗЮКОВА**



# Нікас Сафронаў: «Я толькі пачынаю свой творчы шлях»

**— Нікас, я вывучаю вашы работы, вашу мастацкую дзейнасць. У мяне з'явілася ўражанне, што майстар размаўляе з творцам Сусвету. Скажыце, якое ваша мысленне як аўтара?**

— Ёсць такое паняцце — натхненне. Гэта — творчы працэс, стан, калі сам Стваральнік дае табе імпульс, калі анёл-ахоўнік цябе падтрымлівае і дапамагае. Я думаю, што адораны чалавек, вядома, судакранаецца з Усявышнім і па-іншаму ўспрымае свет. Хто такі геній? Гэта таленавіты чалавек, надзелены настойлівасцю. Я сядаю за працу як рамеснік, а завяршаю яе як мастак. Слухаю Моцарта альбо ўключаю старыя фільмы, італьянскія, нашы, каб не адыходзіць ад тэмы жывапісу і не думаць пра побытавыя праблемы, якія з'явіліся за дзень. Пасля трэцяй гадзіны ночы з'яўляецца асаблівы стан эйфарыі, натхнення, калі ты можаш зайсці ў карціну, убачыць, што за гэтым пейзажам, за гэтым лесам ці стогам сена… Ты пачынаеш судакранацца з іншым светам — змяняецца фокус позірку, ты бачыш нейкія дэталі, якіх не бачыў дагэтуль.

Я думаю, Ляўша працаваў менавіта ў гэты час, у пяць-шэсць гадзін раніцы. Потым ты стамляешся, і вока прыціраецца. Але ў той момант, калі сілы яшчэ ёсць, усё выглядае па-іншаму. Ты бачыш самыя дробныя дэталі, калі ты іх нібыта прыбіраеш, глядач не разумее, чаму яго так цягне да той альбо іншай карціны. Насамрэч гэта адбываецца за кошт таго, што мастак убачыў і больш глыбока, больш моцна напісаў тое, што падавалася яму неабходным. Іншы можа не разумець, але работа ўсё роўна невытлумачальна вабіць яго колерам, фарбамі альбо формай.

**— Які момант больш важны ў час працы над карцінай: пачатак альбо завяршальны этап?**

— Усё. Ніколі карціна не можа быць завершана, як рамонт. Кажуць, што яго можна толькі спыніць, але нельга скончыць. Тое ж самае з карцінай: калі ты малюеш, ты ўвесь час незадаволены, ты хочаш дадаць штосьці, але работу трэба здаваць, і ты пагаджаешся.

**— Што вы імкняцеся паказаць у сваіх работах?**

— Я нічога не хачу паказаць. Я нічога нікому не даказваю і не паказваю. Я проста пішу тое, што мне падабаецца, што хвалюе мяне і, я думаю, хвалюе іншых. Праблема з Украінай хвалюе ўсіх і мяне таксама, праблема прафесіяналізму хвалюе мяне і іх. Рамантызм, любоў, прыгажосць — усе гэтыя тэмы знаёмыя. Я мастак. Мендзялееў пісаў сваю Табліцу. Ён быў навукоўцам і таму стварыў гэту ўнікальную сістэму, а мастак малюе — можа быць, усе бачаць гэты пейзаж, але не ўсе могуць яго ўзнавіць. Я гэта паўтараю, і людзі захапляюцца, таму што яны таксама гэта калісьці бачылі. Ім гэта падабаецца, ім гэта блізка. Яны гатовы за яго заплаціць, каб павесіць у сябе. Канечне, у кожнага чалавека павінны быць і крытыкі, і прыхільнікі. Чалавек не працуе ў стол. Толькі ідыёт кажа: «Я працую для сябе». Чалавек заўжды працуе для некага.

Мастацтва ідзе ад душы: ты ўжо не можаш не працаваць, неабходна, каб быў стымул, памкненне. Калі я працую, ніколі не думаю пра грошы. Я думаю толькі пра творчасць, і не мае значэння, колькі мне заплацяць. Я ведаю, што павінен скончыць работу ў тэрмін і зрабіць яе якасна. Сёння для мяне важныя абавязковасць, духоўнасць, прафесійнасць і пазітыў.

**— Ці звязана ваша мастацтва з містыкай, ці верыце вы ў містыку?**

— Я веру ў містыку, праўда, гэта не вельмі богаўгоднае слова. Божы промысел заўсёды прысутнічае ў маім жыцці, і вельмі шмат было падзей, якія звязаны з гэтым і гэта выяўляюць.

**— Які ў вас любімы пісьменнік, любімая кніга, прачытаная ў дзяцінстве?**

— Любімыя аўтары — Мапасан і Гоголь. З дзяцінства — казкі народаў свету. У мяне больш як тысяча кніг казак!

**— У вас шмат узнагарод, якія самыя каштоўныя?**

— Не ведаю, я стаўлюся да іх спакойна. Узнагарода — гэта





і народная любоў, прызнанне, павага. Самае лепшае, калі на выстаўку ў Мінску прыйшло больш як 37 тысяч чалавек за месяц.

**— Што вам цікава маляваць?**

— У мяне была знаёмая, якая казала: «Мне падабаюцца Паўль Клее і Маціс». Я пытаюся: «А чаму?» А яна: «Я так магу…» Мне ж цікава тое, што я не магу. Для мяне цікавыя Цёрнер, Ван Эйк, Брэйгель, Мемлінг альбо Гольбейн, вялікія галандскія майстры, якія перадавалі праз фарбы змест, і глыбіню, і захапленне. Мне цікава тое, што мне не паддаецца, але я асвойваю, таму адкрыў новы кірунак у жывапісе — «Dream vision». Для мяне цікава неспасцігальнае, але яно робіцца зразумелым з цягам часу, з'яўляюцца новыя далягляды, да якіх хочацца ісці. Неяк да мяне падышоў мой студэнт і сказаў: «Прафесар, калі я буду вялікім мастаком, я буду падобным да вас». Я сказаў: «Малады чалавек, я ў вашым узросце марыў быць Леанарда да Вінчы. Вяршыні павінны быць вялікімі».

**— На які ўзровень вы арыентуецеся ў творчасці?**

— Думаю, што цяпер я толькі пачынаю свой творчы шлях. Тое, да чаго я рухаўся, — гэта падрыхтоўка да нечага вялікага, большага.

**Юлія САВІЦКАЯ**

# Замалёўкі з Браслаўшчыны

Адчуць дух Браслаўшчыны, яе прыгажосць, якая зачароўвае ў розныя поры года, можна было на адкрыцці мастацкай выстаўкі Яна Рыдзікі, што адбылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.



*Выступае бард Наталля Нікіціна.*

Нягледзячы на тое, што сам мастак не змог прыехаць на адкрыццё, прысутным удалося адчуць атмасферу Браслаўскай зямлі. Тут і пастэльная цеплыня восеньскіх бяроз, і перадналавальнічная таемнасць браслаўскіх вадаёмаў, і харастро зімовых пейзажаў, і побытавыя сюжэты.

Нарадзіўшыся і пражыўшы юнацкія гады на Браслаўшчыне, мастак выказвае сваю любоў праз палотны. Нягледзячы на адукацыю агранома і настаўніка, Ян вельмі добра пачуваецца ў ролі мастака. Працуе ў розных жанрах, але аддае перавагу пейзажнаму жывапісу, лічыць яго сваім паклiканнем. Творца — удзельнік розных выставак: "Восеньскі салон", "Талент шчодрага сэрца", "Кветкі Яна Рыдзікі", "Браслаўшчына — край азёр", "Жывапіс".

На выстаўцы "Браслаўскія краявіды" прадстаўлена серыя пейзажаў, якія былі створаны мастаком апошнім часам.

Пейзажыст захапляецца ідэяй адушаўлення колеру, імкнецца прымусіць палотны "загучаць". Асабліва добра мастак перадае пераходныя станы ў прыродзе: раніцу, надвячорак, познюю восень, заход сонца.

— Прыемна, што ў сталіцы можна пабачыць творы людзей, якія жывуць у самых прыгожых маляўнічых кутках нашай краіны, — зазначыў падчас адкрыцця выстаўкі пісьменнік і журналіст Навум Гальпяровіч.

Паэтэса Людміла Хейдарава адзначыла зацікаўленасць Яна Рыдзікі рознымі паравінамі года і прачытала некалькі вершаў. Сваімі песнямі аздобілі імпрэзу барды Наталля Нікіціна, Вольга Акуліч, Алесь Камоцкі. Значнасць работ у фарміраванні беларускай нацыянальнай ідэі падкрэсліў паэт Анатоль Вярцінскі. Ён прапанаваў шукаць першавыткі гэтай ідэі менавіта ў беларускай прыродзе.

**Марына ВАЛАСАР,**
**фота аўтара**

# Фэст ідзе на рэкорд

**Юбілейны X Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур праходзіў у Гродне з 6 па 8 чэрвеня. У шматлікіх мерапрыемствах форуму ўзяло ўдзел больш як 900 прадстаўнікоў 35 нацыянальнасцей, якія пражываюць у Беларусі. Каля 400 гасцей прыбыло ў абласны цэнтр з краін блізкага і далёкага замежжа, гарадоў-пабрацімаў. На працягу трох фестывальных дзён гараджане і госці горада змаглі дакрануцца да культур розных народаў, ацаніць багатую палітру традыцый і звычаяў, адчуць смак нацыянальных страў, каларыт песень і танцаў.**



*Польскі падворак.*

## СКВЕР ДРУЖБЫ І ФАРА ВІТАЎТА

Насычаная фестывальная праграма пачалася 6 чэрвеня з адкрыцця дзвюх фотавыставак: «Беларусь шматнацыянальная», прысвечаная памятным мерапрыемствам, якія прайшлі ў 2012 — 2014 гадах з удзелам нацыянальных аб'яднанняў Беларусі, і «У аб'ектыве — старонкі гісторыі фестывалю нацыянальных культур». Такім чынам арганізатары хацелі паказаць, як жывуць, працуюць і адпачываюць людзі розных нацыянальнасцей. Новым сімвалам свята стаў Сквер дружбы, закладзены прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей у Каложскім парку. Больш як 30 дрэў, сярод якіх кедравая хвоя, платан, піхта, амурскі аксаміт, чорны арэх, магнолія, ціс, міндаль, цюльпанавае дрэва, стала своеасаблівым жывым помнікам форуму.

Знакамітая гродзенская Фара Вітаўта «ажыла» ў першы фестывальны дзень. У небе на час з'явілася некалькі малюнкаў былога храма ў розныя перыяды існавання. «Намалявалі» Фару Вітаўта пры дапамозе 3D-праектавання на аснове фатаграфій і гістарычных звестак. У памяць пра каталіцкае і праваслаўнае мінулае святыні адначасова загучалі званы галоўных храмаў горада. На месцы, дзе колісь быў сабор, паставілі памятны знак, створаны гродзенскім скульптарам Сяргеем Більдзюком.

Адкрыццё фестывалю апынулася асабліва яркім і эфектным. І не толькі дзякуючы шматколернасці культур, касцюмаў, песень і танцаў. Знаходка — лазернае і піратэхнічнае шоу. Таму традыцыйнае тэатралізаванае шэсце прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей пачалося позным вечарам. Госці свята ў суправаджэнні групы барабаншчыкаў і духавога аркестра «Гарадзенскія трубы» прайшлі ад Савецкай да плошчы Леніна, дзе фестывалю быў дадзены афіцыйны старт. Леў Лешчанка, Іскуі Абалян, Тарыел Майсурадзэ, Шыр, Герман, Алёна Ланская, Ганна Шаркунова, Тэа, Гюнеш, гурты «Ласковый Май», «Винтаж» ды іншыя зоркі беларускай і замежнай эстрады, якія прадстаўляюць розныя нацыянальнасці, выступілі падчас святочнага канцэрта. А палове на другую ночы неба над Гроднам упрыгожыў шыкоўны феерверк.

## ПАЛІТРА ФАРБАЎ, ПЕСЕНЬ І ТАНЦАЎ

Паколькі фестываль юбілейны, арганізатары вырашылі падзякаваць яго стваральнікам, павіншаваць тых, хто стаяў ля вытокаў свята. Упершыню адбылося падвядзенне вынікаў рэспубліканскага конкурсу сярод журналістаў і СМІ на лепшае асвятленне міжнацыянальных і міжканфесійных зносін, міжнароднага дыялогу Беларусі і супрацоўніцтва з суайчыннікамі за мяжой.

Цэнтральнай пляцоўкай другога, галоўнага, дня форуму сталі нацыянальныя падворкі. У гістарычнай частцы Гродна сёлета іх было 22. Менавіта вандруючы па падворках, госці фестывалю маглі спазнаць сутнасць свята.

Ахапіць неабсяжнае немагчыма, але можна ўлавіць галоўныя рысы той ці іншай культуры. Так, чувашы паказалі гледачам народнае свята плуга і зямлі Акатуй, а азербайджанцы — народны вясельны танец качэўнікаў-жывёлаводаў «Тэрэкеме». На карэйскім падворку можна было ўбачыць танец з веерамі, паслухаць ігру на карэйскіх ударных інструментах, на ўкраінскім — палюбавацца маляўнічымі нацыянальнымі касцюмамі, паслухаць народныя песні, пабачыць сапраўдны «Гапак». Індыя ў вачах беларусаў набыла абрысы танцуючай жаночай фігуры, водару вострых прыпраў, індыйскіх гульняў і музыкі. На падворку іспанцаў, італьянцаў, англічан, эстонцаў і балгар пад мілагучны спеў можна было пакаштаваць дзівосныя стравы. Венесуэльцы заварожвалі лацінаамерыканскімі рытмамі, грэкі, апранутыя старажытнымі элінскімі багамі, танцавалі нацыянальны танец «Сіртакі», а палесцінцы паказалі нацыянальны вясельны абрад. На грузінскім падворку можна было пачуць традыцыйныя грузінскія песні, палюбавацца на танцы джыгітаў. Беларусы скаралі сэрцы гасцей песнямі, танцамі і гумарыстычнымі сцэнкамі ў народным стылі, літоўцы прапаноўвалі пайграць на нацыянальных духавых інструментах ды вывучыць літоўскі народны танец. Татары гулялі з дзецьмі ў нацыянальныя татарскія гульні, а таксама ўразілі відовішчнымі спаборніцтвамі: барацьбой на паясах і баямі на бервяне. Цыганы сабралі на сваім падворку вялізны натоўп: тут былі і квяцістыя спадніцы, і рамантычныя спевы.

Другі дзень фестывалю — яшчэ і час шматлікіх канцэртаў і шоу. Адбыліся вялікае харэаграфічнае свята, гала-канцэрт творчых калектываў нацыянальных аб'яднанняў, канцэрты выканаўцаў і калектываў Гродзенскай вобласці, шэсце духавых аркестраў, свята дзіцячай нацыянальнай творчасці, шоу-прэзентацыя нацыянальных касцюмаў. Літаральна кожная пляцоўка гістарычнага цэнтра 7 чэрвеня стала месцам выступленняў музычных і танцавальных калектываў. Зрэшты, і самі вуліцы запоўнілі прыезджыя музыкі, жывыя скульптуры, мастакі.

Сёлета ў Гродне з'явіліся адразу два «Гарады майстроў». Адзін — у парку Жылібера, другі — на Савецкай плошчы. Са сваім рамяством гасцей фестывалю пазнаёмілі 33 народныя майстры розных нацыянальных аб'яднанняў і каля 60 майстроў з усіх абласцей Беларусі. З 2 па 8 чэрвеня праходзіў міжнародны пленэр кавалёў, якія працавалі ў даліне Гарадніччанкі за хатай Элізы Ажэшка. Крыху раней — 15 мая — адбыўся пленэр мастакоў. Упершыню ён з'явіўся ў праграме фестывалю ў мінулым годзе і вельмі спадабаўся гасцям. Пабачыць гатовыя работы можна было ў парку Жылібера.

Запамінальным момантам свята стала прэзентацыя-дэфіле нацыянальнага касцюма «Прыгажуня фестывалю». Лагічным яе працягам была ўнікальная выстаўка нацыянальных вянкоў.

Акрамя таго, у парку зрушвалі з месца аўтамабілі і падымалі цяжар самыя моцныя мужчыны Беларусі, Расіі, Польшчы і Літвы. На сёлетнім фэсце арганізатары ўпершыню вырашылі правесці свята пад назвай «Балады старажытных вуліц»: удзельнікі распавядалі гісторыі пра старадаўнія куточкі Гродна. Да таго ж падчас фестывалю ўпершыню ў Гродзенскай кірсе па-сапраўднаму загучаў арган, які прывезлі ў храм нядаўна. Пасля асвячэння інструмента на ім сыграў арганіст з Германіі.



*Літоўскі падворак.*

## ГАСТРАНАМІЧНАЕ ПАДАРОЖЖА

Шматлікім гасцям трэці дзень форуму запомніцца як свята нацыянальнай кухні. Сёлета стравы былі прадстаўлены толькі на падворках. Украінцы частавалі галушкамі, пампушкамі і варэнікамі. Літоўцы прывабліваі халаднікам, літоўскім півам і нацыянальнымі смажанымі бутэрбродамі. На грузінскім падворку можна было пакаштаваць «кавалачак Грузіі»: для гасцей быў зроблены 20-кілаграмовы торт, які паўтараў абрысы і ландшафт гістарычнай радзімы. Тут таксама частавалі сацыві і хачапуры. Водар каўказскіх шашлыкоў лунаў амаль над кожным падворкам, так што можна смела сказаць, што гэта страва стала ў пэўным сэнсе гастранамічным сімвалам фестывалю. Упершыню і Савецкую плошчу пераўтварылі ў вялікі рэстаран пад адкрытым небам.

Фестываль завяршыўся 8 чэрвеня абвяшчэннем лаўрэатаў форуму ў абласным драмтэатры, канцэртам гумару «Гродна — Масква — транзіт». Яшчэ адна навінка заключнага дня — вялікае свята нацыянальнага тэатральнага мастацтва. Пастаноўкі па творах замежных аўтараў прадставілі тэатры Гродзеншчыны і госці з іншых гарадоў Беларусі.

## КВЕТАЧКА-ВЯСЁЛКА

Першы рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур адбыўся ў Гродне ў 1996 годзе. Кожны раз свята пакідае ў горадзе нешта пасля сябе. Але ёсць традыцыйныя элементы, без якіх фэст не быў бы самім сабой. З самага першага форуму сімвалам свята стала своеасаблівая «Кветачка-вясёлка». На вуліцах Гродна ў любую паравіну года можна знайсці ў вітрынах лагатыпы фестывалю. У выглядзе «Кветачкі-вясёлкі» і галоўныя ўзнагароды для пераможцаў фестывалю — шкляныя вазы ад майстроў з Бярозаўкі. Нязменны атрыбут — пано на сцяне былой даміканскай гімназіі па вул. Савецкай, якое з'явілася ў 2000 годзе. З таго часу яно заўжды прыцягвае ўвагу гасцей горада. Птушкі, намаляваныя вядомым гродзенскім мастаком Аляксандрам Сільвановічам, усе розныя, упрыгожаныя нацыянальнымі арнаментамі — знакамі нацыянальных аб'яднанняў, што ўдзельнічалі ў фестывалі.

Паводле міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, у нашай краіне пастаянна праводзіцца каля сотні фестываляў рознага ўзроўню і кірунку. Але форум у Гродне — асаблівы. Ён аб'ядноўвае культурную моц краіны па надзвычай цікавай прыкмеце, якой з'яўляецца непаўторнасць нацыянальнасцей. За мяжой няма форумаў, падобных беларускаму, таму Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур у Гродне можа прэтэндаваць на ўнясенне ў Кнігу рэкордаў Гінеса.

**Таццяна ШЫМУК, фота аўтара**

# Містыка трох карт

Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі прадставіў адзін з самых містычных твораў рускага опернага мастацтва —«Пікавую даму» Пятра Чайкоўскага. Музычная трагедыя ўзрушвае псіхалагічнай праўдзівасцю думак і пачуццяў герояў, іх надзей і пакут, яркасцю карцін эпохі, напружанасцю музычна-драматычнага развіцця.



Фота Дар'і Буракінай

Пётр Ільіч Чайкоўскі вельмі любіў і высока цаніў гэты твор: «...ці я жудасна памыляюся, ці «Пікавая дама» на самай справе шэдэўр...» Матэрыял для будучай оперы кампазітару прапанаваў яго брат Мадэст, аднак П. Чайкоўскі спачатку не зацікавіўся. Калі пушкінскі сюжэт усё ж авалодаў яго ўяўленнем, знакаміты творца стаў самазабыўна працаваць над операй і скончыў яе за рэкордных 44 дні. У адрозненне ад літаратурнай першакрыніцы, у канчатковым лібрэта, напісаным Мадэстам Чайкоўскім, шчаслівы канец заменены на містычна-трагедыйны, са смяротным зыходам для галоўных герояў. Акрамя сюжэтных і храналагічных змен Пётр Чайкоўскі здзейсніў у сваёй «Пікавай даме» галоўную рэформу: яго Герман — не разважлівы і славалюбівы гулец з «душой Мефістофеля», а чалавек з моцным запалам, «цёплае, жывое стаўленне» да якога з боку самога аўтара выклікае водгук у слухача.

«Пікавая дама» — твор адметнага лёсу ў Вялікім тэатры Беларусі. Фактычна, гісторыя яе пастановак — гэта гісторыя стварэння і развіцця тэатра. З 1934 года кожнае дзесяцігоддзе (а часам і двойчы) яна адкрывала гледачам у партыях Германа, Лізы, Графіні, Ялецкага і Томскага вялікіх спевакоў, якія сталі гонарам беларускага опернага мастацтва.

— У любым тэатры «Пікавая дама» стаіць асабняком. Не толькі таму, што яна напісана на адным дыханні і лічыцца вяршыняй творчасці кампазітара: пастаноўка вельмі тэатральная (больш нават, чым твор Пушкіна) і складаная. Паставіць гэты твор лічыцца вялікім мастацтвам, — адзначыў дырыжор-пастаноўшчык спектакля Андрэй Галанаў.

На галоўнай музычнай сцэне Беларусі сёмую версію знакамітага спектакля прадставіла інтэрнацыянальная каманда на чале з балгарскім рэжысёрам, дырэктарам Сафійскага тэатра оперы і балета Пламенам Карталавым. «Мы пастараліся, каб рэальнасць і фантастыка ў жыцці галоўнага героя перапляліся. На першы план я вывеў матыў канфлікту чалавека з сіламі, што знішчаюць яго годнасць, з грамадствам і асяроддзем», — прызнаўся рэжысёр.

Паводле артыстаў тэатра, опера вельмі дынамічная, у адрозненне ад папярэдніх пастановак. «Мая гераіня, Ліза, вельмі жывая і эмацыянальная. Калі я выконвала яе партыю раней, яна была статычная. А тут — запал і бура эмоцый. Пастаноўка перартварылася ў сумесь драматычнага і музычнага тэатраў», — так апісала свой вобраз заслужаная артыстка Беларусі Ніна Шарубіна. Выканаўца галоўнай ролі — партыі Германа — народны артыст Беларусі Сяргей Франкоўскі прызнаўся, што адчуў на сабе ўплыў вобраза. «Не скажу, што стаў вельмі замкнёным... Але ўва мне стала больш агрэсіі. Апошнім часам зрываюся без прычыны і дома, і на рэпетыцыях. Раней я сабе такога не дазваляў», — падзяліўся саліст.

Важную ролю ў оперы адыгрывае хор. Ён з'яўляецца рэфлектарам, у якім, як у люстэрку, адбіваецца трагізм сутыкнення мары і рэчаіснасці Германа. У плане сцэнаграфіі прастору рэальнага і ілюзорнага светаў ствараюць экраны з вокнамі і люстэркамі, прастора з лабірынтамі і калідорамі, пасткі-келлі. Падчас паказу «Пікавай дамы» не ўзнікае праблем з акустыкай: дзякуючы дэкарацыям гук ляцíць у залу.

**Таццяна ШЫМУК**

# Летуценнікі з дзіцячымі вачыма



Фота Кастуся Дробава

Урачыстае адкрыццё персанальнай выстаўкі жывапісу Васіля Касцючэнкі «Зямляне» адбылося ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў («Палац мастацтва»).

Васіль Касцючэнка — вядомы творца, педагог, член Беларускага саюза мастакоў і Міжнароднай гільдыі жывапісцаў, міжнароднага аб'яднання «Сонечны квадрат» (Масква), мастацкага аб'яднання «Арцель» (Мінск), лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

На выстаўцы прадстаўлены шэраг палотнаў апошніх гадоў, аб'яднаных канцэпцыяй звароту да вобраза чалавека ў сучасным свеце. Адсюль і назва праекта — «Зямляне». Так, героі большасці твораў мастака — сімвалічныя постаці, пазбаўленыя рыс партрэтнасці — летуценнікі з вялікімі дзіцячымі вачыма. Аўтар шукае вобраз сучасніка — чалавека, які, нягледзячы на ўсе тэхнічныя дасягненні, прагматызм і імклівасць, знаходзіць у жыцці месца для пачуццяў і веры, мар і кахання. Поспех мастака Касцючэнкі ў тым, што ён актыўна рэагуе на падзеі і трэнды мастацкага дыскурсу і, разам з тым, застаецца сентыментальным, лірычным, а часам і глыбока інтымным творцам. Пра сучаснае, пластычнае мысленне жывапісца кажа і яго сяброўства з моладдзю, багаты педагагічны досвед.

У стылі Васіля Касцючэнкі спалучаюцца элементы беспрадметнага і рэалістычнага мастацтва. Работы, прадстаўленыя на выстаўцы, розныя па настроі: ад напружана драматычных («Устрыманае імгненне», «Укрыжаванне», «Ружовае святло»), пабудаваных на спалучэнні кантрасных колераў, да гарманічна ўраўнаважаных («Калыханка», «Белая раніца»), выкананых у адной светлай танальнасці. Аднак аўтарскі тэмперамент найбольш праяўляецца якраз у дынамічных колеравых спалучэннях (чырвонага з зялёным, зялёнага з ружовым ды інш.), блізкіх да стылістыкі сучаснага мастацтва. У гэтым сэнсе паказальны шматразовы зварот аўтара да жанру накцюрна («Прыцемкі», «Краявід з месяцам», «Ружовае святло»). Але жывапіс В. Касцючэнкі далёкі ад кідкай мовы рэкламы, кантрасты на яго палотнах кампазіцыйна згарманізаваныя. У каларыстычных і вобразным напаўненні твораў згадваюцца шагалаўскія матывы: тонкая стылізацыя пад наіў, рознакаляровыя чалавечыя постаці, сілуэты жывёл, што сведчыць пра прыналежнасць мастака да славутай віцебскай школы (у 1974 г. ён скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута). Цікавая і свежая серыя гарадскіх пейзажаў («Горад», «Рэха горада», «Ля храма») — унёсак аўтара ў распрацоўку мастацкага брэнда Мінска.

Асобную старонку ў творчасці В. Касцючэнкі займаюць палотны на хрысціянскія тэмы («Прычасце», «Радаўніца», «Сустрэча»), што нагадваюць кранальныя шэдэўры народнага іканапісу. Для творчасці В. Касцючэнкі апошняга часу характэрны зварот да вялікіх фарматаў («Понцій Пілат і Ісус», «Прадчуванне сустрэчы», «Паплавок»), што нагадвае пра досвед прадстаўнікоў абстрактнага экспрэсіянізму з іх імкненнем растварыцца ў жывапіснай стыхіі.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2505.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 12.06.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2393.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686